
Паломніцтва памяці → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Пратэсты ў Беластоку → 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 34 (3354) Год LXV | Беласток, 23 жніўня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Фота тэлеграм-канал МКБ

# Падзенне Бастыліі

Віктар САЗОНАЎ

**Гародню, якую так любілі і іншаземныя турысты, і беларускія вандроўнікі, і мясцовыя жыхары, не пазнаць. Паўсюль турнікеты, перакрытыя дарогі, сілавікі ў бронекамізэльках... Нават зразу і не адрозніш хто яны, ці міліцыя, ці ДАІ, ці якія спецслужбы... Ці свае, ці чужыя...**

Чорныя бронекамізэлькі, хмурыя твары, цёмная аўра вакол... Нібы глядзіш фільм пра акупацыю. Людзі кажуць адзін другому, як рызыкоўна хадзіць вечарам у цэнтры горада, бо паб'юць, забяруць, пасадзяць. І як рызыкоўна хадзіць па ўскраінах горада, бо схопяць, арыштуюць, вывезуць. І як небяспечна ўвогуле выходзіць у горад, бо нападуць, адбяруць тэлефон, не дадуць нават паведаміць родным, што з табой сталася. Анекдот пра мужыка, які на хвілінку адлучыўся з хаты, каб купіць хлеб і не вярнуўся, стаў рэальнасцю. Толькі гэта ўжо не анекдот. Гэта новая беларуская паслявыбарчая рэальнасць. І не толькі ў Гародні. Гэта агульная рэальнасць па ўсёй Беларусі. А ўрэшце, кажуць, што трэба ўсё ж ісці, і па ўскраіне, і ў цэнтр, нягледзячы на рызыку быць схопленым, збітым, асуджаным, бо ўжо ўсё абрыдла і трэба нешта з гэтым рабіць.

Людзі абмінаюць міліцыю і іншых прадстаўнікоў улады ў форме і без формы. Хто з насцярогай, хто з папрокам, хто з жалем, хто з грэблівасцю, хто моўчкі, хто нешта скажа праз сябе, хто ў слых. Абмінаюць як ворагаў, як чужаземцаў, як акупантаў, бо наблізішся, то можна нажыць праблем. Спытаеш нешта, то гэта можа быць апошняе пытанне на свабодзе.

Людзі не ідуць па дапамогу да ўлад. Ні да мясцовых, ні да рэспубліканскіх. Яны ведаюць, што ў іх няма сваёй улады. Тэлефоны праваабаронцаў не змаўкаюць. З другога канца абаненты плачуць, шукаюць сваіх дзяцей, родных, блізкіх, каханых. У кожнага свой боль. У кожнага перажыванні за блізкіх людзей, якія прапалі і не могуць нават паведаміць, што з імі сталася. І няма дзе шукаць паратунку! Службы, якія мусяць шукаць тых, хто прапаў, займаюцца іншымі. Займаюцца тымі, хто яшчэ не прапаў. Тымі, хто яшчэ на свабодзе.

Вечарамі сірэны, сігналы машын, крыкі, імклівыя перадыслакацыі сілавікоў і пратэстоўцаў. Паведамленні пра тое, што то ў адным, то ў другім канцы горада хапун, патасоўкі, затрыманні, наезды на машыны браневікам, пацярпелыя, хуткія дапамогі, і зноў па коле.

Чутныя крыкі „Верым, можам, пераможам”, „Не здадзімся”, „Жыве Беларусь!!!”.

Галоўная тэма размоў, гэта пра тое, што робіцца на вуліцах і пра дзеянні ўлады. Галоўнае пытанне ў двух беларусаў, якія спаткаліся на вуліцы, гэта ці пасадзілі каго з тваіх блізкіх...

А куды садзіць, як ужо не хапае месца тым, каго пасадзілі?! І колькі ж можна садзіць?! Няўжо цэлы народ?! Гэта ж не бульба. Ужо не бульба. Гэта ўжо Народ. Беларускі Народ. Увесь не пасадзіш. А пасадзіш, дык вырасце такі ўраджай, што ўсім хопіць.




У культавым фільме майго юнацтва адзін высокапастаўлены, надзелены вялікай уладай герой, пачуўшы непрыемную песню пра сябе, пытае ў свайго падначаленага:

— Чаму аўтар гэтага твора яшчэ не сядзіць у Бастыліі?

— Таму што аўтара гэтай песні нельга пасадзіць у турму ў прынцыпе, бо аўтарам гэтага твора ёсць сам народ, — адказвае той.

І тады начальнік, скрывіўшы незадаволеную грымасу, са злосцю сцвярджае:

— Няма такога народу, які нельга пасадзіць у Бастылію!

Тады гэтая фраза здавалася смешнай і ўдала падабранай для той камеды. Але пазней давялося зразумець, што нічога смешнага тут няма. Гэта рэальны стыль мышлення кожнага, хто ап'янеў ад доўгагадовай улады, і з таго, набраўшыся пыхі і самаўзвялічвання як брадзячы сабака блох, лічыць, што можа гвалтам вырашыць кожную праблему. Нават пасадзіць народ у Бастылію. Яны думаюць, што сіла і турма гэта і ёсць завершаны набор сродкаў, які дазволіць ім вечна рабіць, што хочуць. Яны нават пачынаюць забывацца, што і яны самі не вечныя...

Цяперашні беларускі рэжым ужо даўно робіць стаўку выключна на сілу. І як паказалі падзеі апошніх дзён, калі для разгону мірных дэманстрантаў быў ужыты непрапарцыянальны гвалт, выканаўцы здольныя і гатовыя на любыя зверствы супраць сваіх суайчыннікаў. Сістэма гвалту даўно створаная і даведзеная да дасканаласці. Жорсткія затрыманні, нялюдскія паводзіны, бяздумнае зверскае збіццё сваіх суайчыннікаў толькі за тое, што тыя выйшлі патрабаваць справядлівасці, усё гэта не ўкладваецца ў разуменне нармальнага чалавека і даўно пакінула прастору, дзе можна шукаць падзел паміж дабром і злом. Мірныя акцыіператвораныя ў поле жудаснага разгону і збіцця ўдзельнікаў. Ужываецца ўвесь набор спецсродкаў, страшнейшымі за якія ёсць толькі пагрозы ўжыць яшчэ большую сілу і не спыняцца ні перад чым...

Увесь свет у разгубленасці і здзіўленні паглядае на кадры з Беларусі, дзе ужыванне сілы супраць мірных дэманстрантаў з'яўляецца галоўнай і адзінай стратэгіяй улады, бо сілы многа. Яе назапашвалі гадамі, выкідвалі на яе незлічоныя сродкі і толькі на яе рабілі стаўку. Прыйшоў час яе прымяніць. Спатрэбілася. І тут трэба аддаць належнае гэтай уладзе — даўно ведалі, што спатрэбіцца.

Праўда, у дадатак да сілы яшчэ ж патрэбная Бастылія. І, здавалася, Бастылію можна збудаваць з усёй краіны. А яе сцэны — гэта страх, людскі, які ўвесь час расце, бо побач стаіць сіла. Страх, які знішчае волю і прагу да свабоды, да пошуку самога сябе. Гэты страх прымушае маўчаць, пагаджацца з несправядлівасцю, не заўважаць няпраўды, прыніжацца, лісліва, падманваць самому іншых і нават выконваць злачынныя загады. Страх з'яўляецца галоўнымі мурамі і падмуркамі вялікай Бастыліі.

Але сцены рухнулі! Рухнулі, рухнулі, рухнулі... Людзі выйшлі на змаганне ў першую чаргу са сваім страхам. І перамаглі яго. Бастылія пала.

Гэтых людзей пераследуюць, хапаюць, судзяць, садзяць, палохаюць... Праўду кажучы, з імі могуць зрабіць што заўгодна, бо назапашаная з другога боку сіла эфектыўна прымяняецца. Сіла іх скручвае і кідае за краты. Іх так многа асудзілі, што ў ізалятарах часовага ўтрымання не хапае месцаў. Іх садзяць па некалькі дзясяткаў у адну маленькую камеру і ўсё адно не хапае месцаў. Вязуць у іншыя гарады і іншыя кропкі, і там месца не хапае. Бастылія ж рухнула. Тая Бастылія, дзе можна было пасадзіць увесь народ і яшчэ месца заставалася б, рассыпалася разам са страхам, бо страх — яе сцэны. А без сцэн гэта ўжо не Бастылія, толькі яе контуры.

чытайце ☞ 2






1 ☞ працяг

Тэарэтычна, такой вялікай сілай, якую назапасіла ўлада, можна яшчэ на нейкі час заглушыць актыўныя пратэстныя выступы. Можна, але Бастылію ў яе ранейшым варыянце ўжо не адновіш. На месца страху прыходзяць стойкасць, вартасць, смеласць, упэўненасць і простая, самая звычайная чалавечая годнасць.

У апостала і евангеліста Яна Багаслова ёсць выказванне: „Той хто баіцца, недасканалы ў любові, бо любоў праганяе страх". І тую духоўную пацеху і вяшчанне перамогі дабра над злом нясе штогадзіну гук вялікага звона Свята-Пакроўскага праваслаўнага Сабора ў цэнтры Гародні.

Любоў да праўды, да справядлівасці, да Радзімы, да Беларусі, да свайго народа, да бліжняга, які стаіць побач з табой, праганяе страх.

Ратаваць існуючы рэжым кінуліся яго даўнія сябры і паплечнікі. Адзін з першых — начальнік Расійскай Федэрацыі. А як жа ж без яго?! Ён ніколі не хаваў, што Беларусь гэта галоўная сфера яго інтарэсаў. Зусім нядаўна яны так былі схапіліся з беларускім калегам, што здавалася больш не паціснуць адзін другому рукі нават пасля пандэміі. Але ж як сцвярджае старая народная мудрасць, крумкач крумкачу вока не выдзеўбе. Яны не тое што рукі пацісннуць, яны абдымацца будуць нават падчас пандэміі. І расійскі кіраўнік не спініцца ні перад чым, каб захаваць Беларусь у сферы свайго ўплыву, а яшчэ лепш выкарыстаць сітуацыю і праглынуць яе цалкам. Няма сумненняў у тым, што не маргнуўшы вокам пры патрэбе аддасць загад сваім узброеным сілам прасунуцца на захад.

Толькі вось беларусы на гэтыя варыянты больш не згодныя. Беларусы ў сваёй пратэстнай масе як па гэтым пытанні, так і па многіх іншых апярэдзілі свае палітычныя эліты. Яны яскрава акрэсліваюць свае жаданні і патрабаванні. Справядлівая, вольная, незалежная беларуская краіна з дэмакратычнымі выбарамі і правамі чалавека.

Ну а глабальныя еўрапейскія структуры прадказальна выказваюць занепакоенасць. У іх хіба пра занепакоенасць бланкі ўжо загатоўленыя на ўсе выпадкі жыцця. Застаецца толькі ўпісаць краіну і паставіць дату.

А вось асобныя еўрапейскія краіны выказаліся больш канкрэтна. Пакуль яшчэ азіраючыся на агульнаеўрапейскую бюракратыю, але ўжо не надта. А Польшча, Літва і Латвія прапанавалі ўладам у Беларусі свае пасрэдніцтва паміж пратэстоўцамі і фактычнай уладай.

Ці скарыстаецца ўлада Беларусі гэтай прапановай. Упэўнены, што не. Колькі ў яе было магчымасцей дыялогу з міралюбівай нацыянальнай апазіцыяй. Але яна не бачыла ў іх суб'екта, бо апазіцыя была слабая. А дамаўляцца то і трэба са слабейшым, пакуль той слабейшы, бо ён тады на большыя саступкі пойдзе. Ды і ўвогуле дамаўляцца справа добрая. Але ж не, такое не здарылася. А гісторыя паказвае, што калі не дамаўляюцца з Махандасам Гандзі, то абавязкова прыходзяць больш радыкальныя лідары.

Зрэшты, гэтым разам беларускі народ паказаў, што ён і без лідараў можа. Лідараў то асабліва і не чуваць. З лідарамі рэжым навучыўся спраўляцца, што і даказаў і зараз, калі многія былі вымушаны з'ехаць з краіны, іншыя зменшыць сваю радыкальнасць да мінімуму, а тыя, хто не зменшыў, аказаліся за кратамі. А вось з народам аказалася справіцца цяжэй, чым з лідарамі, бо гэтым разам народ пайшоў не за нейкім канкрэтным лідарам, а за ідэяй. З лідараў проста рабілі сімвалы гэтай ідэі. Ну і даўно вядомыя, галоўныя, старадаўнія сімвалы беларусаў, бела-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоня" занялі свае належнае месца ў цяперашнім пратэстным руху. Гэтыя сімвалы лунаюць паўсюдна. Гэтымі сімваламі размалявана ўся Гароднія і гэтым разам не спяшаюцца іх сціраць камунальшчыкі. Выкарыстанне гэтых сімвалаў падкрэслівае антынацыянальны, антыбеларускі характар сённяшняй улады і прагу да свайго нацыянальнага, да свайго беларускага адраджэння ў тых, хто зараз выйшаў на вуліцы.

Беларускі пратэст, што сённяшні, што ранейшыя, носіць яшчэ і вызвольны характар, характар вызвалення і ад свайго ўнутранага гнёту, і ад праяў замежнай акупацыі.

Беларусы цяпер самі хочуць будаваць сваю краіну і сваю будучыню — краіну без сцен са страху і будучыню без Бастыліі. Яны ўжо заявілі пра сябе як пра годны еўрапейскі народ, з якім зараз лічыцца будуць усе. Яны сведчаць пра сябе перад усім светам як перспектыўная і вялікая нацыя. Яны робяць сваю гісторыю.

**Віктар САЗОНАЎ**




SEJM
RZECZYPOSPOLITEJ POLSKIEJ
IX kadencja

**Druk nr 558**

Warszawa, 14 sierpnia 2020 r.

## ПАСТАНОВА
## Сейма Рэспублікі Польшча ад 14 жніўня 2020 года аб сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь пасля прэзідэнцкіх выбараў 9 жніўня 2020 года

Помнячы сумесную барацьбу палякаў і беларусаў за свабоду і дэмакратыю, асабліва ў сотую гадавіну Варшаўскай бітвы 1920 года, захоўваючы вернасць традыцыі Салідарнасці ў саракавую гадавіну з дня яе стварэння, Сейм РП рашуча асуджае прымяненне ўладамі Аляксандра Лукашэнкі жорсткага гвалту і масавых рэпрэсій да беларускага грамадства і фальсіфікацыю вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Рэспубліцы Беларусь 9 жніўня 2020 года.

У выніку жорсткага гвалту над беларускімі грамадзянамі беспрэцэдэнтнага маштабу загінулі два чалавекі, некалькі соцень атрымалі раненні, больш за 7 тысяч былі арыштаваны альбо затрыманы, а вялікая колькасць удзельнікаў мірных пратэстаў была збіта супрацоўнікамі АМАПа, міліцыі і спецпадраздзяленняў.

Ва ўмовах такой драматычнай сітуацыі, Сейм Рэспублікі Польшча хоча запэўніць усіх беларусаў у нашай салідарнасці і падтрымцы. Мы катэгарычна патрабуем ад улад у Мінску неадкладна вызваліць усіх арыштаваных, а таксама спыніць рэпрэсіі і прымяненне гвалту супраць грамадства.

Мы рашуча асуджаем пазбаўленне грамадзян Беларусі магчымасці ўдзелу ў свабодных, дэмакратычных выбарах і свабоднага выказвання сваіх поглядаў. Запалохванне апазіцыйных кандыдатаў і пазбаўленне іх волі, абмежаванне асноўных свабод, у тым ліку права на сходы і свабоду слова, а таксама выкарыстанне грубай сілы не служаць умацаванню незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Сейм Рэспублікі Польшча, маючы на ўвазе дабро і развіццё польска-беларускіх добрасуседскіх адносін, заклікае ўлады ў Мінску неадкладна пачаць мірны дыялог з грамадствам, што з'яўляецца адзіным спосабам пабудовы паспяховай будучыні Беларусі.

Сейм Рэспублікі Польшча просіць Урад Польшчы неадкладна запусціць гуманітарную дапамогу ахвярам пераследу ў Беларусі і стварыць магчымасць хуткага прыёму палітычных уцекачоў з Беларусі.

Сейм Рэспублікі Польшча звяртаецца да Еўрапейскага парламента, Еўрапейскага Савета і Еўракамісіі з просьбай прыняць рашучыя меры па падтрымцы беларускай грамадзянскай супольнасці.

Па прычыне маштабнага грамадзянскага абуджэння ў Беларусі неабходная салідарнасць з боку ўсяго Еўрапейскага Саюза. Менавіта таму Сейм Рэспублікі Польшча звяртаецца да Еўрапейскага парламента, Еўрапейскага Савета і Еўракамісіі з просьбай прыняць рашучыя меры па падтрымцы беларускай грамадзянскай супольнасці.

# Заява
## Беларускага гістарычнага таварыства і Фонда Kamunikat.org

У Менску і многіх іншых гарадах з нядзелі, 9 жніўня, працягваюцца мірныя акцыі пратэсту беларусаў супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Аляксандр Лукашэнка, які кіруе краінай з 1994 года, у чарговы раз абвясціў сябе пераможцам, нібыта набраўшы 80% галасоў. Абураныя беларусы выйшлі на вуліцы, каб мірна абараніць свой голас. Каб разагнаць гэтыя акцыі пратэсту, улады накіравалі спецпадраздзяленні і армію, узброіўшы не толькі вадамётамі, гумавымі кулямі або шумавымі гранатамі, але і агнястрэльнай зброяй. У выніку гэтых падзей, паводле афіцыйных звестак Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, было затрымана больш за 5000 чалавек. Многія з іх утрымліваюцца ў нечалавечых умовах — у камеры для дзесяці чалавек утрымліваюць па 40-50 чалавек. Дзясяткі дэманстрантаў знаходзяцца ў шпіталях, сотні звярнуліся па медыцынскую дапамогу. На жаль, бываюць і смяротныя выпадкі. Сярод затрыманых у Менску і беларускі гісторык, доктар Аляксандр Пашкевіч — рэдактар часопіса ARCHE, намеснік галоўнага рэдактара часопіса „Наша гісторыя". Ён таксама з'яўляецца членам праграмнага савета фонду Kamunikat.org. Як рэдактар часопіса ARCHE ён шмат гадоў супрацоўнічаў з Беларускім гістарычным таварыствам. Алеся затрымалі ў нядзелю на выбарчым участку ў Менску, дзе ён дзейнічаў як незалежны назіральнік. Паводле інфармацыі МУС Беларусі, Алеся судзяць за „хуліганства". Кожны, хто ведае гэтага выдатнага прадстаўніка беларускай інтэлігенцыі, ведае, што ён чалавек высокай асабістай культуры, і такую сітуацыю, у якой ён „неяк абражаў бы людзей", немагчыма ўявіць. Мы салідарныя з беларусамі, якія незаконна затрыманы беларускімі службамі. Мы выказваем занепакоенасць грубым парушэннем асноўных правоў чалавека ў Беларусі. Мы патрабуем неадкладнага вызвалення Аляксандра Пашкевіча, а таксама ўсіх астатніх, затрыманых у розных гарадах Беларусі падчас мірных акцый пратэсту.

**Магдалена Дэнбкоўская**, старшыня Праграмнай рады Фонду Kamunikat.org
**Яраслаў Іванюк**, старшыня праўлення Фонду Kamunikat.org
**праф. Алег Латышонак**, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства

# Крыж і елку я сам пасадзіў яшчэ тады, восенню 1946 года, каб не сцерлася памяць пра тое, што тут адбылося...



— Паверце, ужо раней былі знакі з неба, — кажа бацюшка Марк Якімюк, — ужо раней тут прамовіў цуд...

Словы пра цуд толькі дапоўняць светлы момант. Стаім над магілай кананізаваных пакутнікаў з Занёў, навокал загоны залатога аўса і квітнеючай кукурузы. З неба, быццам з напаленай печы, патыхае ліпеньскае лета. Усё здаецца звычайным і адначасова новым.

— Калі я служыў тут апошнім разам, — прадаўжае святар, — то забыўся ўзяць з сабой спісак з імёнамі пакойных. Я гляну на пана Юзафа і кажу: „Як жа цяпер адслужу паніхіду без карточкі?" Яшчэ як на злосць неба зацягнулі шэрыя хмары і дождж са снегам пайшоў. Я ўсхваляваўся, заззлаваў на сябе... Але даверыў Богу, — падумаў: няхай ужо будзе як будзе. І, паверце, калі я адслужыў да месца, дзе ў паніхідзе называюць імёны, раптам праяснілася неба і асвятліла намагільную дошку. Я па чарзе акуратна прачытаў усе імёны. Паглядзіце, тут жа сцерліся літары, усё неразборліва. А я пабачыў усё і прачытаў з помніка як са спіска ў руцэ. Такое тут адбылося і я ўпэўнены, што гэта прамовіў знак... што гэтыя людзі будуць праслаўлены і ўзвялічаны...

У Занях упершыню адслужаць малебен, прыпісаны да першай нядзелі пасля Вялікага посту, калі адзначаюць Трыумф Праваслаўя. І заспяваюць: *Святыя Мучанікі Занёўскія, маліце Бога за нас.* Ад узрушанасці і прыгожага моманту спазіраю на неба. Але і там бачу нейкі знак, здаецца, усе хмаркі ўтварылі стралу, якая сама па сабе напамінае сталёвае пяро.

* * *

Да брацкай магілы ў полі каля Занёў прыехалі мы адразу пасля літургіі ў Браньску. Маршрутка спынілася ля палявой сцяжыны, далей ішлі са спевам, між калонамі кукурузы, а ўсё паломніцтва ачолілі жанчыны з іконай кананізаваных дзень раней Падляшскіх Пакутнікаў.

Як жа іншай была гэтая падзея ад той, якую я запамятала чвэрць стагоддзя таму назад. Тады да магілы дабіраліся па снезе. Пранізлівы холад не дазволіў акуратна прыгледзецца дэталям, услухацца ў рытм і энергетыку месца. Праз усё прабівалася траўма і пачуццё крыўды. Пасля паніхіды жменька ўдзельнікаў перайшла ў вёску, дзе чакала падрыхтаванае вогнішча і цёплыя стравы. Сустрэчу над магілай арганізаваў нястомны Юзаф Антанюк, які ў жахлівы дзень 2 лютага 1946 вачыма дзіцяці глядзеў на гібель маці.

Тады мы пісалі так: *Магіла дваццаці чатырох праваслаўных жыхароў Занёў (гміна Браньск), замардаваных 2 лютага 1946 года Oddziałem Pogotowia Akcji Specjalnej, пад камандай Рамуальда Райса, псеўданім «Буры», знаходзіцца ў адкрытым полі, непадалёк вёскі. Гэтае месца, з адзінокай сасной, нагадвае незагоеную рану ў пазначаным рыжымі скібамі краявідзе. Гэта таксама незагоеная рана ў памяці жыхароў польска-беларускага памежжа.*

Далей ішлі ўспаміны відавочцаў, якія ўсе патрабавалі ананімнасці. Надта цёмны ўспамін я запісала ў жанчыны, якая 2 лютага не назвала інакш як толькі




■ Юзаф Антанюк

«судны дзень». Маёй суразмоўцы было тады 18 гадоў. Запамятала, як бандыты ўварваліся з аўтаматамі ў іх хату і пыталі, якога яны веравызнання. Памятае, як разам з маці ірванулі ў поле. За імі беглі іншыя людзі з вёскі, а наўздагон ім даляталі выстралы з аўтаматаў. У пэўны момант яна ўпала і страціла пачуццё рэальнасці. Калі пасля нейкага часу ачуняла, пабачыла над сабой маці. Яна галасіла, нешта прыказвала. Мая гераіня хацела падняцца і бегчы, але не атрымлівалася. Аднак жа астаткам сіл дацягнуліся да лесу, пазней запамятала, як везлі яе жалезным возам у Браньск. Вяртанне да жыцця было таксама вялікай траўмай. Ёй расказалі пра бацьку, якога бандыты застрэлілі на вуліцы. А яна з прастрэленымі лёгкімі сама не разумела як уцалела... І як пражыла тыя ўсе гады ў крыўдзе і страху.

* * *

26 ліпеня ў Занях над магілай кананізаваных пакутнікаў разам са сваякамі і пілігрымамі выстойваў 85-гадовы Юзаф Антанюк. Гэта яму нізка пакланіўся айцец Марк, які не раз сам бачыў і адчуў ангажаванасць гэтага чалавека на шляху па божую справядлівасць. Пасля малебна ён адказаў на пытанні журналістаў.

— Тут пахаваная мая маці, — пачаў, — а гэты драўляны крыж і елку я сам пасадзіў яшчэ тады, восенню 1946 года. Каб не сцерлася памяць пра месца і тое, што тут адбылося.

— Чаго яшчэ вам не хапае ў асвятленні гэтай трагедыі? — пыталі яго.

— Праўды, — адказаў Юзаф Антанюк, — каб той злачынца, які расстраляў маю маці, сам сказаў, хто гэта зрабіў. Я ведаю імя і прозвішча таго чалавека. Ён хаваўся пад псеўданімам «Бітны». Гэта ён павёў свой узвод пацыфікаваць Зані. Ён быў з Гродзіска. У 1939 годзе служыў падафіцэрам польскага войска, пры немцах стаў камендантам нямецкай жандармерыі ў тым жа Гродзіску. Пасля зрабіў тое, што зрабіў. У пасляваенны час нельга было асветліць і агучыць гэтае злачынства, бо ў камуністычных уладах былі людзі, якія супрацоўнічалі з падполлем. Яны адны другім дапамагалі — такая праўда.

Юзаф Антанюк усё ж шчаслівы, што дажыў такога моманту. Гэта дазволіць перадаць памяць пра нявінных ахвяр для наступных пакаленняў.

Таксама людзі, якія прыехалі на малебен, не напаміналі ўжо той спалоханай, траўмаванай пілігрымкі асірацелых людзей. Ля магілы выстойвалі сем'і, а за спінамі бацькоў і дзядоў сваволілі дзеткі. Месца зараз належыць парафіі Малешы.

— Калі будзе божая воля, — заявіў настаяцель, — мы паставім у гэтым месцы царкоўку. Зараз у нас, у Малешах, ляжыць разабраная старая царква, яшчэ з уніяцкага часу. Як пашанцуе яе тут паставіць, мы зробім яшчэ адзін добры ўчынак у бок занёўскіх святых. Ды ўсе яны будуць распісаны на асобнай іконе.

Мяне ўразіла адна рэч: сярод кананізаваных я налічыла ажно дзесяць святых з прозвішчам Антанюк. Верагодна, многія з іх, гэта родныя і сваякі Юзафа Антанюка. Вось яму заплата за намаганні і настойлівасць, якую праявіў у змаганні за праўду.

* * *

У 1997 годзе пра Зані мы яшчэ пісалі:

— Пасля вайны Зані былі мнагалюднай вёскай. На дзвесце сем'яў толькі чатыры былі каталіцкія. Аднак наваколле належала ўжо шляхце. Нас хацелі прагнаць і забраць сабе зямлю, — кажуць сведкі таго часу. — Банды дзень і ноч хадзілі. Рабавалі ўвесь дабытак ды пасылалі кацапаў у «рай». Аж паўсотні людзей выехала тады ў Савецкі Саюз. Сёння Зані — прыстанішча старых людзей.

Таксама на малебен амаль усе прыехалі з іншых мясцовасцей і гарадоў. І не толькі сваякі і нашчадкі. Тут спатыкаю індывідуальных паломнікаў ажно з Малінік і Машчонай-Панскай:

— Як пабачыла сёння на тэлебачанні фільм пра кананізацыю, то пайшла да ўнука і кажу: вязі мяне ў Зані. Я не магла выседзець ужо ў хаце. Тут жа столькі святых, што спамятаць усіх немагчыма...

Фота і тэкст Ганны **КАНДРАЦЮК**

# XXVI «Спасаўскія запусты»



У ходзе сёлетніх XXVI «Спасаўскіх запустаў» успаміналіся падзеі, якія спадарожнічалі мерапрыемству ў мінулых гадах. Апрача музыкі, жніўных і сенакосных абрадаў у паасобных выпусках прэзентаваліся таксама беларуская літаратура, мастацтва і мясцовая гісторыя. У гэтым годзе жыхары Бельска-Падляшскага і наваколля 9 жніўня ў гарадскім амфітэатры мелі магчымасць паглядзець выступленні музычных калектываў, якія папярэдзіла сцэнка са жніўным абрадам «Дажынкі». Умела запрэзентавалі яе члены беларускага хору песні і танца «Васілёчкі» і тэатральнага калектыву «Антракт+», якія дзейнічаюць пры Бельскім доме культуры. Важнай часткай мерапрыемства была прэзентацыя паэтычнага зборніка Жэні Мартынюк «Вернае і роднае». Паэтэса чытала свае вершы на сцэне паміж выступамі паасобных музычных калектываў і падпісвала сваё новае выданне.

З ходам мерапрыемства ў амфітэатр прыбывала штораз больш публікі. Арганізатары «Спасаўскіх запустаў» — Павятовы аддзел БГКТ, Аб'яднанне «Бельская кааліцыя» і Бельскі дом культуры — у адпаведнасці з санітарным рэжымам рэкамендавалі гледачам абеззаражваць рукі, закрываць нос і рот маскамі ды захоўваць адпаведную адлегласць паміж сабою. Частка публікі сачыла за выступамі на сцэне стоячы па-за зонай адведзенай для мерапрыемства. «Спасаўскія запусты» — першае беларускае мерапрыемства, арганізаванае ў Бельску-Падляшскім на прыродзе ва ўмовах санітарных абмежаванняў з-за эпідэміі каранавіруса, сабрала даволі шматлікую публіку.

— У мінулым у час «Спасаўскіх запустаў» апрача беларускіх песень і абрадаў мы прэзентавалі мастацтва і фільмы, выходзілі з нашай прапановай да жыхароў вёсак Бельшчыны. Хацелася б, каб у будучыні было больш культурных прапаноў цікавых для маладых асоб. Надалей маём марай застаецца фестываль кароткаметражных дакументальных фільмаў пра нацыянальныя меншасці ў Бельску. Аднак зараз з-за пандэміі каранавіруса складана штосьці планаваць, — сказаў старшыня Павятовага аддзела БГКТ у Бельску-Падляшскім, бельскі павятовы радны Васіль Ляшчынскі, які разам з бургамістрам Бельска-Падляшскага Яраславам Бароўскім адкрыў сёлетнія «Спасаўскія запусты».

Мерапрыемства адбывалася перад «Спасаўкай» — Успенскім постам (14-27 жніўня), які папярэджвае Успенне Прасвятой Багародзіцы. У пачатку мерапрыемства хор «Васілёчкі» і тэатральны калектыў «Антракт+» запрэзентавалі на сцэне жніўны абрад «Дажынкі», са стаўленнем перапаліцы ўключна.

— Мы жніўны абрад ставілі ўжо раней, але да кожнага выступу трэба рыхтавацца дадаткова. Удалай рэпетыцыяй былі для нас «Дажынкі» на полі Дарафея Фіёніка каля Студзіводаў. Мы там сапраўды жалі збожжа, вязалі яго ў снапы, састаўлялі іх і рабілі на полі перапаліцу. Тут трэба было нам скараціць абрад, але сцэнкі і дыялогі былі падобнымі да тых на полі, каб можна было паказаць, якім жніво было ў мінулым, — расказала арганізацыйны кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая, якая пасля разам з іншымі харыстамі ўдала выступіла на сцэне з песенным рэпертуарам. — Пасля перапынку мы ўжо даўно пачалі рэпетыцыі, але наш мастацкі кіраўнік Мікола Фадзін надалей не можа да нас прыязджаць з Беларусі. Згадзіліся часова займацца з намі Анна і Ігар Фіта, з якімі мы рыхтаваліся да сённяшняга выступу.

— Я займаюся з тэатральным калектывам «Антракт+», члены якога (апрача адной асобы) спяваюць у «Васілёчках» і таму было зручна супольна паказаць жніўны абрад, — заявіла дырэктар Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік, якая ў час «Спасаўскіх запустаў» наглядала за выступамі на сцэне. Заказала яна жніўны абрад і перадала весці мерапрыемства журналістцы Радыё Рацыя Ганне Комінч, якая ўмела расказвала пра паасобныя калектывы на сцэне.

Важнай часткай спасаўскіх запустаў была прэзентацыя паэтычнага зборніка Жэні Мартынюк «Вернае і роднае». Паэтэса з адпаведнай дыкцыяй зачытала са сцэны паміж выступамі калектываў сем сваіх вершаў на сакавітай беларускай літаратурнай мове.



■ Паэтэса Жэня Мартынюк

— Я толькі сёння атрымала маю навейшую кніжку «Вернае і роднае», падрыхтаваную пад рэдакцыяй Міры Лукшы і выдадзеную Аб'яднаннем паэтаў Бельскай зямлі, да якога я належу. Аднак перш за ўсё здаўна я належу да Літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якое выдала мае папярэднія зборнікі вершаў. Так як пачала, пішу на беларускай літаратурнай мове. На польскай мове пісала я прамовы і вершы па заказе на рабоце ў сувязі з рознымі юбілеямі і святкаваннямі. У кніжку «Вернае і роднае» ўвайшлі вершы, якія друкаваліся ў папярэдніх маіх паэтычных зборніках. Мае першыя вершы друкаваліся ў ніўскай рубрыцы «Парнасік». Пазней мае вершы сталі друкавацца і ў самой «Ніве», але ў нашай газеце я часцей друкавалася як карэспандэнт са сваімі допісамі, — сказала Жэня Мартынюк, якая па-за выступам на сцэне падпісвала свой навейшы зборнік жыхарам Бельшчыны.

«Жэня Мартынюк закранае ў сваёй паэзіі праблему сэнсу жыцця, а многа тут і радасці, і смутку. Міжлюдскія суадносіны часта ўплецены ў вобразы прыроды ёе малой айчыны. Падставовыя вартасці: каханне і вера набіраюць своеасаблівага значэння ў кантэксце праміналання людскога жыцця», — напісаў ва ўступе да зборніка «Вернае і роднае» паэт і журналіст, старшыня Аб'яднання паэтаў Бельскай зямлі Андрэй Сальнікаў, які ў час мерапрыемства дапамагаў паэтэсе ў прамоцыі яе новага выдання.

— Вершы Жэні Мартынюк каларытныя, напісаныя на дастойным мастацкім узроўні і прыгожай беларускай літаратурнай мове. Кранаюць дзяцінства, ці вёскі, што павінна зацікавіць нашу публіку, — сказала дырэктар БДК Альжбета Фіёнік.

Публіку ў амфітэатры і гарадскім парку захапіў сваім выступам калектыў «Маланка», які дзейнічае пры БДК. Займальна ён запрэзентаваў меладычныя беларускія песні і інструментальную музыку ў выкананні капэлы калектыву. Мастацкім кіраўніком спевакоў і капэлы ўжо трыццаць гадоў з'яўляецца Сяргей Лукашук, які раней кіраваў таксама «Васілёчкамі».

— Пасля перапынку з-за пандэміі каранавіруса мы ўжо ў канцы красавіка пачалі рэпетыцыі. Зараз поўным ходам ідзе падрыхтоўка да юбілею 30-годдзя «Маланкі», які запланаваны на 14 лістапада. Маем намер выдаць у кастрычніку шосты кампакт-дыск, прымеркаваны да юбілею. Частку песень мы запісалі з новага рэпертуару, а частку складуць песні, з якімі мы выступалі ў розных перыядах трыццацігадовай дзейнасці, — патлумачыў мастацкі кіраўнік «Маланкі» Сяргей Лукашук і ўдакладніў, што зараз у калектыве выступае пяць музыкантаў капэлы і дванаццаць спевакоў.

У «Маланцы» займаюцца маладыя спявачкі, якіх зацікавілі меладычныя эстрадныя беларускія песні. Рыхтуючыся да выступленняў у час юбілею, развучваюць яны таксама песні з ранейшага рэпертуару «Маланкі». Эстрадныя беларускія песні падбірае да сваіх выступаў таксама калектыў «Немаральная прапанова» з Беластока, але выконвае іх у зусім іншай манеры.

— Мы выступаем у манеры, якая больш даспадобы маладым людзям. Ужо чатыры разы мы выступалі на фестывалі «Беларуская песня». У гэтым годзе занялі мы першае месца ў катэгорыі вакальна-інструментальных калектываў. Выступаем найчасцей у час мерапрыемстваў на прыродзе, — заявіў Міхал Баркулак з калектыву «Немаральная прапанова», які сваім выступам захапіў моладзь.

Публіцы таксама спадабаўся калектыў «Трыяда» з Беластока. Складаюць яго тры (адтуль і назва) сястры, ураджэнкі Макаўкі: Анна, Уршуля і Юстына, якія выступілі з даўнімі песнямі ў сваёй аранжацыі.

— Мы, тры сястры, спяваем нашы даўнія песні, каб яны не загінулі і засталіся ў памяці таксама і ў малодшага пакалення. Усе тры рыхтуемся да выступу на конкурсах. У час выступаў на прыродзе бывае па-рознаму. У адной сястры вялікая гаспадарка і сёння мы не хацелі адрываць яе ад працы, — заявілі дзве сястры, з якіх адна выступала з дзвюма дочкамі.

Цікава запрэзентаваліся таксама Вікторыя Гаць з Бельскага дома культуры і калектыў «Фермата» Гміннага асяродка культуры ў Орлі, у якім таксама выступае здольная вучаніца Вікторыя Гаць. Мастацкім кіраўніком абодвух выканаўцаў з'яўляецца Юстына Пажэзінская, якая ўдала падрыхтавала дзяўчат да выступаў з беларускімі і ўкраінскімі песнямі. Цікава запрэзентаваўся таксама беларускі мужчынскі калектыў «Куранты» з БДК.

— У нас у галоўным беларускі рэпертуар, за выключэннем паасобных песень і такія творы заспяваем сёння, — сказала мастацкі кіраўнік «Курантаў» Аліна Негярэвіч.

Калектыў «Луна» з Парцава таксама ўдала запрэзентаваўся перад бельскай публікай. Ужо традыцыяй стала, што на «Спасаўскія запусты» прыязджаюць калектывы з Беларусі. На гэты раз не прыбылі яны ў Бельск з-за абавязковага двухтыднёвага каранціну пры ўездзе ў Польшчу. Па гэтай прычыне калектывы з Рэспублікі Беларусь не прыязджаюць таксама на іншыя нашы мерапрыемствы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# «Бел-чырвона-белы сцяг будзе яшчэ вісець на шчыце таго будынка»

**Не спыняюцца дэманстрацыі пад Генеральным консульствам РБ у Беластоку. Не менш за сто чалавек штодзень збіраецца пры Генеральным консульстве ў Беластоку, каб прадэманстраваць сваю падтрымку ўдзельнікам пратэстаў супраць вынікаў галасавання ў Беларусі. Першапачаткова былі гэта спантанныя акцыі, але зараз яны арганізаваныя прафесійна і не спыняцца, пакуль не памяняецца сітуацыя іх родных, блізкіх і сяброў, якіх збіваюць, саджаюць у турмы і рэпрэсуюць. Менавіта тут, пад консульствам у Беластоку, аб'ядналася беларуская меншасць і дыяспара, якія з непакоем, але і надзеяй глядзяць сёння на супольную Радзіму.**



Акцыі на вуліцы Электрычнай праходзяць з нядзельнага вечара, калі агучылі, што Аляксандр Лукашэнка перамог на прэзідэнцкіх выбарах. Беларусы Беластока, якія ў нядзелю некалькі гадзін стаялі ля брамы консульства, каб прагаласаваць за свайго кандыдата, у перамогу Лукашэнкі не вераць, тым больш што тут, паводле экзіт-пола Святлана Ціханоўская набрала 542 галасы, а цяперашні кіраўнік дзяржавы толькі тры. У Беларусі пасля аб'яўлення папярэдніх вынікаў, паводле якіх ізноў значна перамог Аляксандр Лукашэнка, тысячы людзей выйшлі на вуліцы гарадоў і меншых мясцовасцей, каб выказаць супраціў фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.

З 9 жніўня пад беларускае консульства ў Беластоку дэманстранты штодзень прыходзяць з бел-чырвона-белымі сцягамі, у руках трымаюць транспаранты з лозунгамі «Жыве Беларусь», «Свабода» або «Беларусь змагаецца за свабоду» і голасна гавораць аб страху і барацьбе сваіх блізкіх і сяброў, якія засталіся ў Беларусі. Удзельнікі акцыі салідарныя з беларусамі, якіх незаконна затрымліваюць спецслужбы, выказваюць занепакоенасць парушэннем асноўных правоў чалавека ў Беларусі, а таксама патрабавалі неадкладнага вызвалення Аляксандра Пашкевіча і ўсіх іншых затрыманых у розных гарадах Беларусі падчас мірных акцый пратэсту.

— Кроў не на нашых руках. Мы разумеем, што людзі вымушаны бараніцца, — адзначыў журналіст Зміцер Косцін. — Кроў на руках чыноўнікаў, членаў камісіі, тых, якія фальшавалі выбары. Мы ўсе з вамі задаем сабе пытанні ці тыя сустрэчы маюць нейкі сэнс. Мне здаецца, што так. Памятаеце, у панядзелак мы патрабавалі пратакола, у сераду яго атрымалі. У сераду тут Яраслаў Іванюк зачытаў адозву ад Гістарычнага таварыства ў Польшчы і фонду «Камунікат» з патрабаваннем адпусціць Алеся Пашкевіча і спыніць гвалт. Напэўна гэтая заява гвалту ва ўсёй Беларусі не спыніла, але Алеся Пашкевіча вызвалілі. Мы маем таксама сілу, знаходзячыся тут. Я хачу звярнуцца да тых супрацоўнікаў, працаўнікоў гэтага будынка, што наша дзяржава вось тут, за плотам. Яны не пабаяліся напісаць такія лічбы, якія мы пабачылі ўчора — 525 за Святлану Ціханоўскую, 42 за Лукашэнку. Усе мы ўсведамляем, што ім таксама зараз страшна, таму нам застаецца адзін адказ: далучайцеся!

Паводле афіцыйнага пратакола акруговай выбарчай камісіі ў Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Беластоку Святлана Ціханоўская набрала 525 галасоў і перамагла цяперашняга кіраўніка дзяржавы, за якога прагаласавала 43 выбаршчыкаў.

— Жонка ў мяне беларуская, я радзіўся ў Азербайджане, вучыўся ў Маскве, а зараз жыву ў Ваўкавыску, — кажа Гамлет, адзін з удзельнікаў штодзённых акцый





пад консульствам. — Я сам галасаваў супраць усіх, таму што і Бабарыку, і Цапкалу, і Ціханоўскую я лічу людзьмі Пуціна. Мэта ў іх адна — Беларусь пад Расею. Беларусы вельмі спакойныя людзі, але ўжо эканамічна не вытрымліваюць. У нас даражэй, чым у вас. Перамены будуць, я спадзяюся, як мага хутчэй. Я за парламенцкай палітыкай, бо беларусы не даспелі да прэзідэнта. Ведаючы менталітэт беларусаў, чарговы прэзідэнт ізноў пачне абкрадаць нашу краіну. Толькі парламенцкая рэспубліка! Свабода!

Пад консульствам людзі ўскладаюць кветкі, ставяць свечкі. У сераду (12 жніўня) акцыя салідарнасці з беларускім народам сабрала больш за дзвесце чалавек. Юля з Гародні нагадала, што беларусы за апошнія дні былі адрэзаны ад інтэрнэту, таму ўвесь час кантактавалася са сваімі роднымі па тэлефоне.

— Учора званіла сваёй сястры, якая баіцца выходзіць на вуліцу, — сказала Юля, якая ўжо два гады жыве ў Беластоку. — Яна баіцца перш за ўсё з-за дзяцей — у яе двое. У горадзе страшная атмасфера. Я думала паехаць да маці, мае дзеці ўжо паўгода не бачылі бабулі. Вы разумееце, Гародня так блізка Беластока, а зараз туды не паедзеш, бо там страшна.

Удзельнікі акцыі баяцца таго, што яшчэ можа адбыцца ў Беларусі. Праз мікрафон дзеляцца сваімі хваляваннямі, разумеючы, што супраць арміі, якая страляе ў людзей сапраўднымі кулямі, маюць толькі рукі, голас, гарачыя сэрцы і веру ў лепшае.

— Чытаючы навіны з нашай краіны магло б здавацца, што дно ўжо прабіта. На жаль, гэта яшчэ не дно, — гаварыў Дзіма праз мікрафон пад консульствам у Беластоку. — Збіваюць нашых людзей так, каб яны ўжо не выйшлі на ніводныя пратэсты, палохаюць іх і спрабуюць зламаць.

Некаторыя са слязамі ў вачах адкрыта гавораць, што калі і гэтым разам беларускаму народу не ўдасца адваяваць сваіх правоў, застанецца толькі адчай.

— Я ніколі не спадзяваўся і не прыкмеціў таго моманту, калі стварыўся той грамадскі рух, — кажа журналіст „Газеты выборчай" Мацей Халадоўскі. — Нечакана ўсе героі папярэдніх выбараў недзе прапалі, а на іх месца з'явіліся зусім іншыя людзі з сапраўднай верай і патрэбай змен. Можна сказаць, што між іншымі пратэсты ў 2010 годзе былі штуршком для руху, які маем зараз у Беларусі.

Падобныя акцыі падтрымкі адбываюцца па ўсёй Польшчы, дзе жывуць беларусы. Яшчэ 20 жніўня ў Беластоку адбудзецца Марш салідарнасці з Беларуссю, дзе людзі пяройдуць з Плошчы Касцюшкі ў бок консульства Рэспублікі Беларусь.

— Прабачаюся, але не магу адказаць па-беларуску, — сказаў Антон. — Нас у школе таго не вучылі. Таксама не вучаць гісторыі, якая палякаў прадстаўляе як ворагаў. Я зараз тут жыву і магу ўпэўнена сказаць, што мы зараз большыя браты з палякамі, чым з рускімі. Дваццаць шэсць гадоў жыву за мяжой, за якой, на думку Лукашэнкі, нашы ворагі. Я ў Польшчы лепш сябе адчуваю, чым у Расеі, дзе называюць нас бульбашамі. Я не бульбаш, я — беларус!

Кожны, хто прыходзіць пад генконсульства ў Беластоку, усё-такі верыць, што неўзабаве надыдуць доўгачаканыя перамены.

— Стаю зараз насупраць брамы ў консульства, — адзначыў Якаў Бык з Пінска. — Я разумею, што сцяг нашай Рэспублікі Беларусь дзесьці там за дрэвамі, але я ўпэўнены, што мы даб'ёмся свайго і я ведаю, што бел-чырвона-белы сцяг будзе яшчэ вісець на шчыце таго будынка! Мы яго там заб'ём!

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



Фота Адама Паўлоўскага

# Начны верабейка

Як толькі ўзышло сонца, вылез верабейка з-пад застрэшка і да крынічкі паляцеў. Сустрэлася яму канаплянка.

— Верабейка, чаму каноплі не аддаеш? — пытаецца.— Хіба забыўся, што пазначыўў?

— Не пасеяў я канапель, — пачаў апраўдвацца верабейка. — Без начыння і лапця не сплящеш. А ў мяне сявенькі не было.

Сорамна стала за падман. Ірвануў з усёй сілы ад канаплянкі і далей паляцеў.

Сустракаецца яму прасянка.

— Верабейка, чаму проса не аддаеш? — пытаецца. — Хіба забыўся, што пазычаў?

— Пасеяў я проса, ды не ўзышло, — схлусіў верабейка.

Не сеяў ён проса. Вясною пакаштаваў зярнятка-другое і сам не заўважыў, як усё да аднаго здзяўбаў.

Сорамна стала за падман. Ірвануў ад прасянкі і далей паляцеў.

Каля крынічкі ўбачыў верабейка вялікую шэрую птушку — курапатку. Успомніў, што пшанічку ў яе пазычаў. Таксама, відаць, пра доўг спытае. Спалохаўся верабейка, падляцеў да сасны і ў дупло нырнуў. Пакуль не сцямнела, у дупле прасядзеў.

Так і жыве цяпер гэты верабейка: удзень спіць, а ўночы лятае да крынічкі ваду піць.

**Іван Галубовіч,**
**Янотавы абяцанкі**

*Пятро Глебка*

## Канец лета

Яблыкі даспелі...
У ярах глыбокіх
Дацвітае лета
Цветам журавін.

Адспявалі жнеі
На палях шырокіх.
Заспяваюць скора
У небе журавы.

Заўтра нам у школу...
Развітацца трэба
З тымі, з кім гулялі
Летняю парой:
З нашым шумным лесам,
З нашым сінім небам,
З нашаю блакітнай,
Быстраю ракой.

Мы ідзём на поле...
Тонкім павуціннем
І расой халоднай
Крыецца прастор.
Мы ідзём у пушчу...
Быццам у кручыне,
Галаву схіляе
Старадаўні бор.

Мы ідзём да рэчкі...
З намі па дарозе —
З поўначы сцюдзёны
Подых вецярка.
І пад ім на воды
Ліст раняюць лозы,
І шуміць маркотна
Нашая рака.

Чуе, скора лёдам
Будзе ўся адзета,
На палях закружаць
Белыя снягі...
Да спаткання ж, рэчка!
Да другога лета,
Дарагія пушчы,
Нівы і лугі!

Заўтра нам у школу...
За сталы, за парты
Сядзем мы па класах,
Будзем працаваць,
Будзем весяліцца
І вучыцца ўпарта,
Будзем вечарамі
Лета ўспамінаць.



«Жэмэрва» на Палессі

Фота Адама Паўлоўскага

**УВАГА КОНКУРС!**
**№ 34-20**

**Шустранькі,**
**Маленькі,**
**Сам у шэрай світцы**
**Шукае капелькі,**
**Каб трохі пажывіцца...**
**В......**
**(Ніл Гілевіч)**

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 29 жніўня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 30: мухамор. Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграла Эва Петрышык. Віншуем!**


Сямейка Іаанны і Міхася Троцаў з кветкамі для Беларусі

# Міфы старажытных беларусаў

**ВЕРАБЕЙ** — старажытныя беларусы не шанавалі вераб'я, лічылі яго шкоднікам і злодзеем, бо ён па сваёй прыродзе краў зерне. Гэта праз вераб'іныя налёты людзі трацілі частку ўраджаю, таму на гэтыя птушкі ставілі «страхаў» — чучалы пераапранутыя за людзей-бадзяг. У польскай мове існуе нават такое акрэсленне неахайнага чалавека: Strach na wróble.

Па народных уяўленнях верабейка скакаў на дзвюх ножках, бо правініўся падчас выбару птушынага цара. За кару яму звязалі ногі. Тым не менш птушка — як лічылі нашы продкі — умее добра жыць і множыцца. На гэта дазволіў ёй сам Усявышні, бо верабей украў адзін з цвікоў, з дапамогай якіх збіраліся крыжаваць Хрыста. Сваёй пакражай ён аблягчыў пакуты Ісуса Хрыста. Узнагарода за пакражу, падумаеце — так, нашы продкі меркавалі, што ў падобных выпадках трэба карыстацца розумам, а пакража, якая нясе палёгку ў цярпенні гэта не правіна, гэта дапамога.

Беларусы таксама верылі, што душа памерлага можа прыляцець у выглядзе менавіта вераб'я. Таксама ў выглядзе гэтых птушак маглі лётаць няхрышчаныя душы. На Палессі вераб'ёў залічвалі да гадаў, якіх Бог сабраў у торбу на знішчэнне, але па неасцярожнасці іх выпусціў цікаўны чалавек. За гэта той чалавек стаў буслам, а верабей няважнай, шкодная істотай...

Птушка ў нашай міфалогіі мае таксама станоўчыя прыкметы. Вось яе Бог заўсёды пасылае як пасланца, які нясе навіны цару птушак — арлу. У гэтай ролі непрыкметны, шэры верабей спраўляецца без заган, а яго камуфляж служыць справе.

Беларусы маюць таксама прыгожы народны танец пад назвай «Верабей», які быў заснаваны на імітацыі рухаў гэтай птушкі.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# Шампіньёны запечаныя ў малацэ

Восень звычайна асацыюецца нам са свежымі грыбамі, сёння аднак прапануем страву, якую можна падрыхтаваць у любы момант года. Шампіньёны — ці інакш пячурыцы, у наш час даступныя зімой і летам. Мы аднак хочам звярнуцца да старых, добрых звычак і паказаць вам, што грыбы найлепш смакуюць якраз восенню, у свой натуральны сезон. Грыбная запяканка простая ў выкананні і патрабуе няшмат складнікаў, а гэта яшчэ адзін вялікі плюс. Яе можна спажываць самастойна або з дадаткамі, як белы хлеб, бульба, рыс. Прапанаваны рэцэпт мы адшукалі ў «Беларускай кухні» аўтарства Юры Качука.

***Складнікі:***

*500 грам свежых пячурыц,*
*2 сталовыя лыжкі сметанковага масла,*
*1 морква,*
*1 цыбуліна,*
*250 грам малака.*
*2 сталовыя лыжкі цёртага сыру,*
*соль, перац да смаку.*

Шампіньёны ачысціць, прамыць і дробна парэзаць. Пасаліць, паперчыць, падсмажыць у масле разам са здробненымі цыбуляй і морквай, кіпяціць у малацэ, каб крыху выпарылася вадкасць. Затым выкласці на патэльню, апырскаць маслам і запячы пад покрыўкай. Гатовую страву пасыпаць цёртым сырам.

Смачна есці! *(гак)*



*Рыгор Барадулін*

## *У дождж*

*Зазвінелі, загулі*
*Пругкія струмені.*
*Затрымцелі на галлі*
*Лісці ў нецярпенні.*
*Сітнягі і чараты*
*Навастрылі пікі.*
*Чарацянкі,*
*Раты параскрыўшы, пінькаюць.*
*Папярхнуліся даждж*ом
*Жоўтыя гарлачыкі.*
*Прыкрываюцца лістом.*
*Скачуць быццам мячыкі.*
*Іх не згоніць скразняком,*
*будуць вадалазамі,*
*Бо сцяблінаю-шнурком*
*аж да дна прывязаны.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 34-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 30-20:**

Сук, капа, кран, мікракосмас, млын, свята, сваты, атол, пан, камяк, стол, кант, каралі. Сенакосы, спод, сімвал, клан, Крыт, раны, мак, нос, сваякі, мятка, плато, на, салют.

Узнагароду, беларускія літаркі на камп'ютарную клавіятуру, выйграла **Соня Стэфановіч.** Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Zakątek / Tył | Korab | | | | | | Baranek / Sońka | | Bask |
| Ząb / Piłka | | | | Rosa / Kowal | | | | | Tarpan |
| | | | Ob / Miecz | | Ar / Wzrost | | | | |
| | | Błyskawica / Pani | | | | | | | |
| | Kogut | | | | | | | (ornament) | |
| Jad / Początek | | | | | | | | (ornament) | |
| | | | Pan | | | | | | |
| Niebieskość | | | | | Lato | Lokata | (ornament) | (ornament) | |

# Звычайныя дні

(ч. 8)

І так дні каціліся наперад, каб знайсці свой фінал у гісторыі і лёсе нашага народа і краіны.

Як я ўжо пісаў, у нашай школе ў той час вучылі марна, хаця падручнікі былі добрыя, каб асвоіць належна пачатковую адукацыю. І мо не ўсе вучні мелі гэтыя кніжкі, а нават і сшыткі. Бо ўсё было дарагое, а людзі жылі бедна. А бацькі, хаця не ўсе, не вельмі прыкладаліся, каб дзеткі мелі належную адукацыю. І дзіўна: у мой час, калі я вучыўся ўжо пасля вайны, гэты «абычай» надалей прадаўжаўся і некаторыя мае сябры і сяброўкі ўжо ў чацвёртым класе, а то і меншыя, кідалі вучобу і жылі разам з бацькамі ажно да кавалерства, жаніцьбы і нават далей. Тады яны зразумелі, што без навукі ніякіх перспектыў на будучыню, лічыць, няма. Тады амаль усе, ужо дарослыя, пакончылі пачатковую адукацыю на вечаровых курсах на працягу адной зімы і атрымалі пасведчанні, што яны здолелі пераступіць парог сёмага класа. А ці здолелі за такі кароткі час? Хаця некаторыя з іх пасля пакончалі і сярэднюю адукацыю.

Хіба я ўжо пісаў, што ў нас, у Дубічах-Царкоўных, у міжваенны час поўную пачатковую школу здабыў толькі адзін вучань, Сцяпан Гаўрылюк, які на ровары даязджаў у Кляшчэлі і там закончыў сем класаў. І колькі я пытаў нашых людзей, хто памятаў гэтыя падзеі і час: колькі класаў налічвала пачатковая школа і ці была платнай ужо далей — ніхто не ведаў. Міхал Мінцэвіч пісаў у «Ніве», што ў Орлі ў той час існавала шасцікласная школа. Але ці гэта была поўная пачатковая вучоба? А ў тэлебачанні аднаго разу паказалі ўжо пажылую бабульку, якая сцвярджала, што яна ў міжваенны час закончыла восем класаў пачатковай адукацыі, а пасля трохгадовую гімназію і атрымала атэстат сталасці? А што сённяшняя гімназія?

А наш Сцяпан Гаўрылюк пасля вайны служыў у бяспецы і даслужыўся ваеннага звання капітана. Ён напэўна ўжо пры народнай уладзе закончыў і сярэднюю адукацыю. Даўно ён не жыве. І добра памятаю, што гэты чалавек ніколі сабою не ставіўся і з усімі людзьмі выключна гутарыў па-нашаму. Значыць, быў гэта разумны чалавек і патрыёт-беларус. Тое, што пішу, гэта істотная праўда, без прыхарошвання і фантазіі. На шчасце, такіх людзей маем і сёння, і нізка кланяюся перад імі.

А нашы людзі цяжка працавалі на сваіх вузкіх палетках — на цераспалосіцы (шахаўніцы). І жытка жалі сярпом, каб ні адзін колас не прапаў. А мой дзядуля Дзмітры Шуль (а мяне і сёння завуць Шуляў Коля) не ўмеў жаць сярпом. Дык ён і папамучыўся, пакуль ужо мог неяк сярпом валодаць. Ён ад роду сярпа не трымаў у руках, бо як я ўжо ўспамінаў, дзядуля яшчэ перад Першай сусветнай вайной у сваёй першай маладосці служыў у нейкага багатага баўэра — гаспадара-земляроба і там здаўна серп пайшоў «у адстаўку» і ніхто ім не карыстаўся (як сёння ў нас). Там жыта, пшаніцу, авёс... касілі касою, а нават былі ў модзе і касілкі, снопавязалкі, вядома, конныя. Мо і забыў я сказаць тое, што пры царскай Расіі многія рускія прагрэсіўныя памешчыкі мелі ўжо тыя неабходныя машыны, як і прылады да іх. І мой бацька, дзядзькі, бабулька Гапка навочна гэта бачылі, калі ў вольны час пакідалі горад Омск, каб прайсціся па стэпе, нізіннай тэрыторыі Заходняй Сібіры і пабачыць, як там рускія гаспадараць і, як казалі, аб сваім дабры не яны ведалі, бо ўсё мелі. А там зямля — чарназём, каменьчыка не ўбачыш.



Аднак у глухіх кутках бязмежнай Расіі мужыкі аралі сохамі, запрэжанымі ў валоў. Нават выдатны пісьменнік і класік Леў Талстой у сваім маёнтку Ясная Паляна сам араў зямельку сахою. Не пагарджаў гэтым.

Польшча ўжо станавілася, як кажуць, на ногі, будаваліся гарады, прыкладам новапабудаваная Гдыня на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, ставіліся фабрыкі, заводы і іншая неабходная індустрыя. Людзі не спалі. Наша польская вытворчасць стаяла на высокім узроўні. Хаця машыны і прылады былі дарагія, але былі высакаякасныя, у тым ліку і сельскагаспадарчыя. Хаця б такая веялка, рэч неабходная селяніну, зроблена была шыкоўна, на від прыгожая, моцная і лёгкая. Мой сябра Грыша Дзмітрук з Тафілаўцаў мае такую веялку і яе адрамантаваў; цяпер яна як з фабрыкі — люба паглядзець і па сённяшні дзень (калі ёсць патрэба) Грыша карыстаецца ёю. А вось і ў мяне ёсць свая веялка (калгасны падарунак), зробленая ў нашых фабрыках недзе ў 1950-я гады. Дык яна розніца ад той першай — даваенный, як дзень ад ночы, бо абабіта фанерай, якая ўжо адстае, і робяцца ў ёй дзіры; адным словам, работа з-пад сякеры. Такая праўда. Хаця нельга ганіць усебакова нашу прадукцыю зараз пасля вайны і ў далейшым працягу часу. Бо і ў нас многія машыны рознага віду прызначэння, ці гэта пры камуне, ці цяпер — высакаякасныя і моцныя, і мала адставалі ад машын, што вырабляюцца на слаўным Захадзе.

У Дубічах славіўся дзядзька Лук'ян Яканюк і яго цэлы род. Пры цары быў ён у нас старшыною, што амаль раўнавалася з суддзёй. Ад яго многа залежала — быт вёскі, яе развіццё, школьніцтва, царква. І ён паспяхова выконваў свае грамадскія і агульныя абавязкі на карысць вёскі. Меў дазвол мець пры сабе і дома зброю. У кішэні насіў рэвальвер — наган. І аднойчы позна ўвечары фурманкай вяртаўся дамоў з Орлі і насупраць ужо нашых могілак пачуў стогн. Дзядзька Лук'ян ухапіў рэвальвер і пакрочыў туды, адкуль чуліся енкі. Убачыў там моцна збітага чалавека, стаў ратаваць яго і выратаваў. А калі б не ён?

Лук'ян і яго сын Валодзя мелі многа зямлі. І ў каго нарадзілася дзіцятка, кожны хацеў мець за кума Лук'яна або яго сына Валодзю. І на маю сястру выпаў гэты гонар, бо калі нарадзілася ў 1931 годзе, то яе хрышчоным бацькам стаў менавіта Уладзімір Яканюк.

Яшчэ прыгадаю тэхніку таго часу, якая была прыдатная ў маёй вёсцы і мо далей. Перш за ўсё былі ў модзе манежы, малатарні, сячкарні. Пры помачы манежа можна было цераз асобую перадачу пусціць у рух малатарню і сячкарню, паганяючы запрэжаных коней; можна было, не трацячы сваіх сіл, нарэзаць многа сечкі альбо змалаціць збожжа. Аднак нямногія з нашых сялян мелі магчымасць мець гэтыя дапаможныя сельскагаспадарчыя машыны і да іх прылады па простай прычыне — сваёй беднасці. І таму ў модзе быў цэп. Мой бацька і дзед Шуль за ўсю зіму (калі разам жылі ў адной хаце) гэтым амаль простым кійком прычэпленым да гладкага тронка маглі змалаціць усё сабранае леткам збожжа, тады такое вельмі цэннае. А дзядзькі не вельмі рупіліся да гэтай прыемнай работы. Ванька вучыўся чабатарству ў Орлі і пасля шыў боты і ладзіў іх, седзячы ў асобным памяшканні вялікай хаты і цікавячыся яшчэ палітыкай. Мішка таксама меў занятак, бо быў добрым сталяром, рабіў вокны і дзверы. І Ванька таксама быў сталяром і майстрам, і гэты занятак выконваў у вольны час. Мяфодзій гэта ўжо быў прафесійны майстар і сталяр, а таксама камуніст.

І неўзабаве атрымаў належную ўзнагароду: тры гады цяжкай турмы. Калі вярнуўся дадому ў 1938 годзе, то казаў: «Калі б я меў пры сабе прыпаясаны пасак, — калі яго каталі ў дэфензіве ў Беластоку, — дык уначы на гэтым паску павесіўся б!» Значыць, і ён духова заламаўся.
І толькі ў кніжках так многа ўсюды герояў, што не пералічыць. А папера вытрымае. Хаця напэўна былі і героі.

Дзядзька Феадосій быў у прымах і, як я ўжо ўспамінаў, жыў у Малых Пасечніках у нейкага Абэркі з яго дачкой Верай. І былі ў іх ужо і дзеці, а сын іх Міша нават (як я пасля даведаўся) у міжваенны час разам вучыўся з маёй будучай цешчай Манькай Федарук у школе ў Вітаве. Штосьці ім там не ладзілася і дзядзька Федзя часта прыязджаў на сваю радзіму і скардзіўся на свой лёс. А маці яго, мая бабулька Гапка, мела добрае сэрца і хацела сыну дапамагчы. Але як? У тыя часы па нашых вёсках лазіла рознага роду чэрнь, а ў тым ліку цыганы, пераважна жаночага полу. І аднойчы ў нашу хату завітала адна з цыганак. Сваёй хітрасцю і спрытам даведалася яна аб горы майго дзядзькі і атуманіла бабульку сваімі рэдкімі чароўнымі «дарамі»; маўляў, адна я змагу зьмяніць жыццё твайго сына на лепшае і будзе вельмі добра ды ніколі не будуць сварыцца. «І каб мае магічныя чары мелі сваю сілу, дык прынясі кусок і то вялікі палатна!» І бабулька прынесла апошні звалак палатна. Цыганка штосьці барматала, прыгаворваючы, што, маўляў, ад сёння ў дом дзядзькі завітае вялікая радасць, светласць і знікнуць усе праблемы; але на гэта трэба яшчэ чарговы падарунак — і паказала на сцяну, дзе вісеў прыгожы гафтаваны ручнік, яшчэ з бежанства (быў яшчэ і другі, але на шчасце схаваны). І бабулька з лёгкім сэрцам аддала яго варожцы. Але гэта яшчэ не канец, і гэтых падарункаўназбіралася цэлая куча, канчаючы на тлустай курыцы — столькі ўсяго, што ледзь мясцілася ў мяшку. Цыганка так варажыла на светлае сужыццё пакрыўджанай шлюбнай пары рыхтык як у рускай казцы, у якой нейкі салдат, адбыўшы 25-гадовую службу ў царскай арміі, завітаўшы ў нейкую хаціну згатаваў сабе з сякеры смачную ежу, атуманіўшы сваёй хітрасцю рускую жанчыну. Але гэта казка.
І вось такая казка амаль стала не толькі сюжэтам, але фактам і здарэннем вышэй успомненых герояў. А ці чары, якія тварыла цыганка, у нечым дапамаглі бабульцы Гапцы і майму дзядзьку? Просты адказ: так памаглі, як мёртваму кадзіла. І дзіўна, бабулька была скупая, у хаце не пералівалася, і такая сям'я вялікая была, а тут так расшчодрылася... Вінаваты ў гэтым забабоны, а бабулька ў іх верыла. На шчасце, усе яе пяць сыноў у забабоны нічуць не верылі, а камуністам жа ў такое верыць непрыстойна. І за гэта можна іх пахваліць... Аднойчы на свяце Успення ў Вярстоку майго бацьку каля царквы зачапіла цыганка з прапановай, што паваро жыць і скажа дакладна, колькі гадоў будзе ён жыць. Бацька сказаў: «Я не веру ў ніякія чары, і варажба твая мне чужая, і не маю грошай, каб табе заплаціць». А яна прычапілася і кажа: «А я без грошай угадаю працягласць твайго жыцця». Бацька для жартаў адказаў: «Гавары!» І яна, амаль не гартаючы сваіх картаў, адказала: «Тут мне сказана, будзеш жыць толькі 80 гадоў, і толькі адзін тыдзень памучышся перад смерцю». І, як паказалі далейшыя падзеі, трапна ўгадала.

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

# Гады арлянскага росквіту (2)

**Орля, як гмінны цэнтр, пачала развівацца ў 1970-1980-х гадах, але неўзабаве, з надыходам палітычных і гаспадарчых перамен, час тут быццам спыніўся. Жыхары Орлі сталі тужыць па мінулым.**

З канцом г.зв. камуны ў Орлі пачаліся чатыры вялікія будовы: школы, асяродка здароўя і двух жылых блокаў (адзін — жыллёвага кааператыва па вуліцы Бельскай, другі — для настаўнікаў па вуліцы Аградовай). Цягам шасці гадоў пабудавалі толькі аграмадны школьны будынак. Будова асяродка здароўя спынілася на бетонных фундаментах, а жыллёвы блок па вуліцы Бельскай не выпаўз з катлавана для падмуркаў. Пасля адзінаццаці гадоў людзі страцілі надзею на атрыманне кватэры па вуліцы Бельскай. Столькі ж будаваўся і блок па вуліцы Аградовай.

Будынак школы — аграмадны, мадэрны і прыгожы — гэта візітка Орлі і гміны. Што асабліва — дзеля запуску гэтай інвестыцыі людзі ахвяроўвалі свае сімвалічныя грошы. У той час хіба яшчэ ніхто не ўсведамляў так раптоўнага дэмаграфічнага спаду. У мінулым складана было ўявіць так шыкарныя прасторавыя ўмовы.

## Школьніцтва ў даўніну

Да канца XIX стагоддзя мясцовасць Орля, цягам амаль трохсот гадоў, карысталася гарадскімі прывілеямі, аднак тады асноўны народ не меў доступу да асветных устаноў. У кастрычніку 1884 года на тэрыторыі Арлянскага прыхода былі адкрыты г.зв. *подвижные школы*, якія ў той час давалі сялянскім дзеткам шанс вучыцца грамаце. Такія аднакласныя асветныя ўстановы, якія не мелі ўласных памяшканняў, існавалі ў Пашкоўшчыне, Тапчыкалах, Рудутах і Шарнях.

У 1901 годзе ў Арлянскім прыходзе было ўжо адно народнае вучылішча і сем рухомых школ. У той час школа ў Орлі месцілася ў пабудаваным пры цары вялікім драўляным будынку па вуліцы Бельскай. Гэты будынак служыў школе аж да снежня 1992 года (магчыма, што за свой час меў ён і іншыя прызначэнні; у 2002 годзе быў бясплатна перададзены мясцовым католікам на капліцу Маткі Боскай Чанстахоўскай). У міжваенны перыяд у 1929/1930 годзе некаторыя пасляшпітальныя будынкі займаў — у тым і на навуку — мясцовы прытулак для дзяцей, які быў пад апекай Павятовага камунальнага задзіночання ў Бельску-Падляшскім. Зараз пасля Другой сусветнай вайны арлянская школа месцілася ў многіх будынках, у тым ліку і ў пасляжыдоўскім, у якім — аж да 2015 года — працаваў асяродак здароўя; а таксама ў царскіх будынках. Пазней частку пасляшпітальнага комплексу прыстасавалі для патрэб дзіцячага садка, бібліятэкі, дома культуры, клуба і гміннай управы.

У 1960-х гадах, як сам памятаю, у самой Орлі вучылася вельмі многа вучняў, было цесна, а зімою холадна. Не было гардэроба, не было прыбіральняў унутры, але ніхто пра новы будынак не марыў. З часам былі ліквідаваны малыя школы ў наваколлі: у Рудутах (у прыватным будынку), у Шчытах-Дзенцялове, а таксама ў Пашкоўшчыне і Вульцы-Выганоўскай. Асталіся школы ў Орлі і ў Малінніках.

## Цаглінка да цаглінкі — будова новай школы

У лютым 1985 года „Gazeta Białostocka" ў артыкуле „Zalążki ludzkiej aktywności" так пісала аб Орлі: „(...) Konkretyzuje się też zamysł wzniesienia budynku szkolnego. Jest on niemniej potrzebny. Dotychczasowa szkoła mieści się w aż sześciu drewnianych chatach. Nie poskąpili więc orlanie złotówek na nową szkołę. Gromadzeniem funduszy zajął się społeczny komitet budowy szkoły pod przewodnictwem Anatola Martynowicza. Na razie zebrano około 800 tysięcy zł. Na tę sumę składają się zarówno uczniowskie złotówki uzyskane za makulaturę, jak i 200-tysięczne udziały orlańskiej spółdzielni produkcyjnej i SKR. Koło myśliwskie „Orzeł" wniosło „cegiełkę" w postaci ponad 40 tys. zł. Władze wojewódzkie, doceniając starania orlan, zgodziły się umieścić budowę szkoły w przyszłorocznym planie inwestycyjnym. W nowym gmachu ma być kilkanaście sal lekcyjnych wraz z gimnastyczną, warsztaty techniczne oraz dziewięć mieszkań". [Для настаўнікаў, а пасля было вырашана будаваць побач школы трохпавярховы блок на 18 кватэр і канчаткова выкупілі іх асобы не звязаныя са школай.]

Астатнія царскія будыніны ў 1986 годзе былі прададзены і знесены, паколькі патрэбны быў пляц пад будову новай школы. Арлянам асабліва было шкада будынка з чырвонай цэглы, у якім да канца 1970-х гадоў змяшчалася гмінная ўправа. У час зносу закрыты быў дзіцячы сад. У часе будовы пагоршыліся ўмовы навучання, бо знесены быў будынак г.зв. малой школы.

Беручы пад увагу тое, што Беласточчыну называлі „Зялёнымі лёгкімі Польшчы" — паводле партыйнай прапаганды — планавалася тут у час канікул арганізаваць лячэбны адпачынак для хворых дзяцей. Будаўнічыя працы пачаліся ў атмасферы прыгожых планаў і аргументаў; хаця многім жыхарам было шкада, калі зносілі царскія будынкі, у якіх правялі яны найпрыгажэйшыя гады сваёй моладасці.

Новую Пачатковую школу з беларускай мовай навучання ў Орлі здадзена ў карыстанне 17 снежня 1992 года. Будавалася яна каля сямі гадоў, галоўна за сродкі дзяржаўнага бюджэту. Сталася, аднак, так, што будынак патрабаваў яшчэ заканчэння, а сродкі былі спынены. Ішлі пэрасоўкі хто мае будынак закончыць. На канец не было выхаду і фінансавую падтрымку вымушаны былі даць гмінныя ўлады — войтам тады быў Міхал Іванчук.

У час пераносу школы ў новы будынак з суседняй драўлянай „старой школы", як пазней высветлілася, не адведзена належнай увагі архіўным дакументам (санацыйцным класным журналам). Як я даведваўся раней у школьнай сакратаркі, частка старых дакументаў трапіла ў кацельню, некаторыя нехта сабе прысабечыў; астаўся толькі адзін, мабыць выпадкова, класны журнал з 1930-31 навучальнага года. Памятаю, як дзівавалася адна з настаўніц-пенсіянерак: „А дзе ж тыя дакументы? Столькі ж іх было!"

У новай аграмаднай, разлічанай на 500 вучняў, пачатковай школе ў Орлі ў 1996 годзе вучылася 183 дзяцей, з ліку якіх 110 вывучала беларускую мову. „Ад прыгожых планаў і аргументаў, якія спадарожнічалі пачатку пабудовы, асталіся адно зялёныя лёгкія" — так пісаў я ў „Ніве" ад 15 снежня 1996 года.

З 25 студзеня да 3 лютага 1999 года ў арлянскай школе ў час зімовых канікул адпачывалі скаўты з амаль усіх кварталаў Беластока — школа пульсавала жыццём.

У 1990-х гадах у Арлянскай гміне памірала ўтрая больш людзей, чым нараджалася і таму лік жыхароў гміны пастаянна скарачаўся. У кастрычніку 1998 года ў гміне пражываў 4091 чалавек, а ў лютым 1999 года — 3966 асоб. З кастрычніка з тэрыторыі гміны выехалі 63 асобы, памерлі 82, а нарадзілася толькі 29 дзяцей. І не ўсе яны пайшлі ў мясцовую школу, бо малечы пераехалі з бацькамі ў гарады. Падобная колькасць дзяцей нараджалася і ў папярэдніх гадах: у 1997 — 21, 1996 — 32, 1995 — 20, 1993 — 30, 1992 — 29...

У 2000 годзе гмінныя ўлады намагаліся закрыць школу ў Малінніках, а вучняў „перавесці" ў арлянскую школу. За ліквідацыяй быў войт Ян Добаш, кааліцыя радных і частка настаўнікаў; супраць закрыцця была большасць бацькоў.

29 сакавіка 2001 года адбылася ў гэтай справе сесія Гміннай рады. Удзельнічалі ў ёй прадстаўнікі павятовых і ваяводскіх улад — бельскі староста, ваявода ды віцэкуратар. Але справы не рашылі. Падляшскі куратар асветы не згадзіўся на ліквідацыю малінніцкай школы з верасня. Быў я тады гмінным радным. І падумаць сёння, у эпоху камп'ютарызацыі ў школах — якая тады была аргументацыя, як недальнабачная і не сугучная рэаліям, без уліку вучнёўскага прагрэсу, аргументацыя за захаванне школы ў Малінніках. Яе тадышняя дырэктар Вольга Стэльмасяк: „Гэтую школку на грамадскіх пачатках пабудавалі іх дзяды, тады маюць яны поўнае права тут аставацца. А цяпер тыя, што не ўнеслі ніякага ўкладу ў паўстанне школы, вырашаюць пра яе ліквідацыю. Згода — школа ў Орлі прыгажэйшая, там лепшае абсталяванне і г.д. Аднак прыгожы дом павінен яшчэ мець душу. Што з таго, што дзяцей навучаецца на камп'ютарах? Ці яны будуць лепшыя? Ці яны будуць шчаслівейшыя, калі не паклапоцімся пра іх душы?.."

Арлянская гміна займае плошчу 170 квадратных кіламетраў. У 2007 годзе лік насельніцтва гміны пачаў так скарачацца, што памірала амаль у дзесяць разоў больш асоб, чым нараджалася. (Яшчэ ў 1998 годзе — утрая больш.) У 22 салэцтвах, якія ахопліваюць 25 вёсак, у 2002 годзе пражывалі 3744 асобы, у 2003 — 3690, у 2004 — 3618 (дзесяць гадоў раней, у 1994 — 4688), 1 студзеня 2005 года — 3636, 2006 — 3542, 2007 — 3478 (нарадзілася толькі дзевяць дзяцей, у 2005-14, у 2004 — 11, у 2003 і 2002 — па 15 дзяцей), у 2008 годзе пражывалі 3423 асобы, 2009 — 3374, 2010 — 3306, у канцы 2011 года — 3130, у канцы 2012 года — 3072, у канцы 2013 — 3010 жыхароў, а на дзень 30 лістапада 2017 года — 2882 асобы, з чаго ў самой Орлі 894 (гадам раней 2917, а ў Орлі — 901 асоба).

У школьным комплексе, у навучальным 2004/2005 годзе (паводле інфармацыі Гміннай управы) вучылася 256 дзяцей (з чаго ў гімназіі 40), у 2007/2008 годзе — 244 (120 у пачатковай, 89 у гімназіі), у 2008/2009 годзе — 122 у пачатковай і 77 у гімназіі, а ў 2016/2017 годзе вучылася 210 вучняў ды адзін па-за школай (годам раней вучылася 217 вучняў). Беларускую мову вывучала палова вучняў падставоўкі і гімназіі. Заняты тут былі 33 настаўнікі (большасць з-па-за Орлі).

Зараз Пачатковая школа з дадатковым навучаннем беларускай мове з'яўляецца адзінай асветнай установай у гміне.

(працяг будзе)

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Бельскі фотаздымак Яўгена Хлябцэвіча

У верасні мінулага года ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася выстава „Руплівец бібліятэчнай справы”, прысвечана 135-годдзю з дня нараджэння Яўгена Хлябцэвіча (1884-1953) — беларускага нацыянальнага дзеяча, бібліятэказнаўца, бібліёграфа, перакладчыка, літаратуразнаўца, кандыдата педагагічных навук. Сярод усіх экспанатаў, якія былі выстаўлены для наведвальнікаў, позірк прыцягнуў рэдкі фотаздымак маладога Яўгена Хлябцэвіча. Ён быў зроблены ў фотамайстэрні Рабекі Баткоўскай з Бельска.

Сапраўды, у 1897 годзе сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе бацька Яўгена Хлябцэвіча, Іван Хлябцэвіч, пачаў служыць святаром. У Кленіках і наваколлі ён арганізаваў некалькі пачатковых школ, быў загадчыкам бясплатнай народнай бібліятэкі. А ягоны сын Яўген Хлябцэвіч у 1900 годзе скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, а пасля Віленскую праваслаўную духоўную семінарыю.

Жывучы ў Вільні, Яўген Хлябцэвіч пазнаёміўся з беларускай інтэлігенцыяй, актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Падтрымліваў цесныя сувязі з рэдакцыямі беларускіх газет „Наша доля” і „Наша ніва”, дасылаў свае допісы, многія з іх падпісваў псеўданімам Халімон з-пад пушчы.

Калі сям'я Хлябцэвічаў пераехала на Бельшчыну, Яўгену было 13 гадоў. А здымак у фотаатэльe Рабекі Баткоўскай у Бельску быў зроблены пасля 1901 года. Хутчэй за ўсё ў 1904 годзе, калі Яўгену споўнілася 20 гадоў. Чаму Яўген Хлябцэвіч выбраў менавіта фатографа Рабеку Баткоўскую? І колькі іх было напачатку XX стагоддзя ў Бельску? На гэтыя пытанні мне дапамог адказаць найцудоўнейшы чалавек, краязнавец, выдавец, шчыры беларус з Бельска Дарафей Фіёнік. Ён пра сваю Бельшчыну ведае ўсё. А пра гісторыю фотаатэльe Баткоўскай і пра іншых бельскіх фатографаў Дарафей напісаў нават спецыяльны артыкул і апублікаваў яго ў сваім часопісе „Бельскі Гостінец”(№ 33, 2006). Па словах Дарафея Фіёніка, гісторыя атэльe Баткоўскіх у Бельску пачалася фактычна ў 1891 годзе, калі атэльe заснаваў Натан Мэнтэль. Неўзабаве яго перадаў свайму вучню Ізаку Тыневіцкаму, а той потым перапрадаў яго Фішэлю Гольцману. Ён з чаргі ўзяў сабе вучняў — сям'ю Баткоўскіх. І яны пасля сталі ўласнікамі атэльe, дзе і фатаграфаваўся Яўген Хлябцэвіч і сотні іншых бяльшчан. А Гольцман пераехаў у Кобрын, дзе заснаваў сваё ўласнае атэльe, якое працавала яшчэ да паловы XX стагоддзя. У Кобрыне, дарэчы, жывуць і цяпер яго спадчыннікі, між іншым і дырэктар фабрыкі цацак „Палессе”.

Дзякуючы фотаатэльe Рабекі Баткоўскай з Бельска, мы маем сёння цудоўны здымак падзвіжніка бібліятэчнай справы, пісьменніка Яўгена Хлябцэвіча. Нагадаю яшчэ, што ў 1906 годзе Яўген Хлябцэвіч стаў студэнтам Юр'еўскага ўніверсітэта, а праз год перавёўся ў Пецярбургскі ўніверсітэт. Тут ён рэдагаваў „Кніжны і бібліятэчны лісток” пецярбургскай газеты „Новая Русь”, дзе дапамог на яе старонках друкавацца Янку Купалу.

Будучы студэнтам Яўген Хлябцэвіч выступаў на Першым Усерасійскім з'ездзе па бібліятэчнай справе з дакладам „Развіццё бібліятэчнай справы на Беларусі”. А калі закончыў універсітэт, працаваў інструктарам Беларускага пададдзела Аддзела асветы нацыянальных меншасцей Народнага камісарыята асветы РСФСР у Кіеве.

У 1919 годзе атрымаў новую пасаду — ён стаў узначальваць бібліятэчнае аддзяленне Палітычнага ўпраўлення Рэўваенсавета РСФСР, а пасля перайшоў у Народны камісарыят асветы.

З 1943 года Яўген Хлябцэвіч працаваў у Маскоўскім бібліятэчным інстытуце, шмат пісаў, абараніў кандыдацкую дысертацыю. У Маскве і пражыў ён свае апошнія гады: яго не стала ў кастрычніку 1953 года.

У шчырых адносінах Яўген Хлябцэвіч быў з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Перапісваўся ён і з Максімам Багдановічам. Як сцвярджаў даследчык творчасці Яўгена Хлябцэвіча Віталь Скалабан, чатыры лісты Багдановіча да Хлябцэвіча захоўваліся напярэдадні вайны ў Акадэміі навук БССР. Мусіць, іх перадаў яшчэ ў 1920-я гады ў Інбелкульт сам адрасат Яўген Хлябцэвіч. Ці пакінуў ён копіі Багдановічавых лістоў у асабістым архіве? Адказаць на гэта пытанне пакуль цяжка.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Рукадзельніца

**Люцына Здаўноўская** з Плянты Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета любіць вышываць і вязаць кручком. Гэта яе любімы занятак у вольны час. Любоў да гафтавання прывіла настаўніца, якая вяла ўрокі па практычна-тэхнічных занятках (так раней запісвалі ў школьным дзённіку гэты прадмет). Захапленне да вышыўкі пачалося тады, калі Люцына была шасцікласніцай у пачатковай школе.

Калі выйшла замуж, жылі і працавалі з мужам у Беластоку, а як муж пайшоў на пенсію, Люцына і Аляксандр Зданоўскія пераехалі на пастаяннае жыхарства ў родную вёску Плянта. Тут Аляксандр нарадзіўся і тут прайшло яго дзяцінства. Ён адсюль.

Цяпер у Люцыны і Аляксандра ў Плянце прыгожы дом і вакол яго многа сасновых дрэў ды кветкавы міні-агародчык. Непадалёк ад дома і іншых будынкаў цячэ рака Нараўка. Вышывальшчыца мае добрыя ўмовы для жыцця і любімага занятку, якому прысвячае кожную сваю вольную хвіліну.

Люцына Зданоўская класная рукадзельніца. Яна з вялікай ахвотай і замілаваннем вышывае ручнікі і макаткі, тчэ габелены, кручком вяжа сурвэты, кілімы, дываны ды ўсялякіх узораў карункі да ручнікоў. У яе пакрывалы з брынджамі (у нас так называюць карункі). У вышываныя ручнікі дадае вязаныя кручком мярэжкі. Яна ўвесь час у пошуках новых узораў перш-наперш карунак



для аздаблення вышываных ручнікоў. Некалькі ўзораў на яе прашэнне выслалі ёй з Масквы і дадалі яшчэ ніткі.

Плянтаўская шматгадовая рукадзельніца ахвотна ўдзельнічае ў гмінных і павятовых конкурсах на гафт і карункі, вышываныя ручнікі, макаткі і габелены. Мае шмат дыпломаў і іншых узнагарод. Яна — удзельнічала таксама і ў агульнакраёвым конкурсе на найпрыгажэйшую сурвэту на стол. Яго арганізавалі ў Лодзі. Сярод 500 удзельнікаў яе праца заняла 13-е месца. На яе макаткі, ручнікі і сурвэты ёсць многа пакупнікоў.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



Дата з Календара

# 140 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Грына

Аляксандр Грын — выдатны рускамоўны пісьменнік, прадстаўнік рамантычнага рэалізму, які сам сябе залічаў да сімвалістаў, не пакінуў непасрэднага следу ў беларускай культуры, але меў менавіта беларускае паходжанне. Ягоны бацька Стэфан Грынеўскі (1843-1914) паходзіў са шляхты Дзісенскага павета Віцебскай губерні. З 1858 г. вучыўся ў Віцебскай гімназіі, але не скончыў яе, бо далучыўся да вызвольнага паўстання 1863 г. Быў бестэрмінова высланы ў Калывань Томскай губерні. Пасля адбыцця высылкі ён пасяліўся ў Вяцкай губерні, дзе ў 1873 г. пабраўся шлюбам з 16-гадовай медсястрой Ганнай Ляпковай. Першыя сем гадоў дзяцей у іх не было. Аляксандр Грынеўскі (пазней Грын) стаў першынцам у сям'і і нарадзіўся 23 жніўня 1880 г. у горадзе Слабадской Вяцкай губерні (цяпер Кіраўская вобласць РСФСР). Пазней у яго з'явіліся брат Барыс і дзве сястры Антаніна і Кацярына.

Хлопчык навучыўся чытаць у шэсць гадоў і першай прачытанай кнігай стала „Падарожжы Гулівера” Джонатана Свіфта. Гэта наклала адбітак на ўсё далейшае жыццё. З дзяцінства Грын палюбіў кнігі пра мараплаўцаў і вандроўкі. Марыў пайсці ў мора матросам і рабіў спробы збегчы з дому. Калі яму было 16 гадоў паехаў у Адэсу. Стаў мараком, адзін раз пабываў нават у егіпецкай Александрыі. Але ў матросы не выйшаў, паколькі яго рамантычная асоба не цярпела цяжкай штодзённай фізічнай працы. Грын вярнуўся ў Вятку, потым паехаў у азербайджанскі Баку, там пераспрабаваў шмат розных прафесій. Зноў вярнуўся ў Вятку, потым быў дрывасекам, золаташукальнікам на Урале, шахцёрам на жалезным рудніку. У 1902 г. стаў салдатам, служыў у Пензе. Пазней Аляксандр Грын шмат вандраваў па Расіі, неаднойчы арыштоўваўся, быў у 1905 г. засуджаны да высылкі. Яго вызвалілі па амністыі. Зноў арыштаваны ў Пецярбургу і высланы. Потым жыў у Пецярбургу, пакутаваў на алкагалізм. У 1919 г. знаходзіўся ў Віцебску. Часта ездзіў у Крым у розныя мясцовасці. У 1927 г. прыватны выдавец Леў Вольфсан пачаў выдаваць 15-томны збор твораў Грына, але паспела выйсці толькі 8 тамоў, бо Вольфсана арыштавала ГПУ. Памёр Аляксандр Грын 8 ліпеня 1932 г. у Старым Крыме. Яму быў толькі 51 год.

Першае апавяданне Грына — „Заслуга радавога Панцялеева” (1906) было канфіскавана і знішчана. За сваё жыццё літаратар напісаў больш за 350 апавяданняў, аповесцей, вершаў, паэм, сатырычных мініяцюр. Апублікаваў зборнік „Славутая кніга” і „Здарэнне на вуліцы Пса” (1915), „Шукальнік прыгод” і „Трагедыя пласкагор'я Суан” (1916). Прозвішча Грынеўскі ён змяніў на псеўданім Грын у 1907 г. Аляксандр Грын стварыў свой непаўторны свет, авеяны рамантыкай прыгод, і засяліў яго мужнымі, высакароднымі і свабоднымі людзьмі. У яго творах арганічна пераплецены рэальнасць і невычэрпная фантазія, якая адлюстравала вечную мару пра чалавечае шчасце. Да найбольш папулярных твораў належаць аповесць „Пунсовыя ветразі” (1923, экранізаваная ў 1961 г.), раманы „Бліскучы свет” (1924, экранізаваны ў 1984 г.), „Залаты ланцуг” (1925), „Бягучая па хвалях” (1928, экранізаваны ў 1967 г.), „Дарога нікуды” (1930) і іншыя. Яго творчасць доўгі час замоўчвалася і набыла новае прызнанне ў 1960-я гг.

У 2013 г. Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр паставіў на сваёй сцэне балет „Асоль” як творчую інтэрпрэтацыю „Пунсовых ветразяў”.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Юбілярка з Баб'яй Гары

На Беласточчыне людзі жывуць даўжэй чымсьці ў іншых мясцінах нашай краіны. У Падляшскім ваяводстве найдаўжэй жывуць у Гайнаўскім, Бельскім і Сямятыцкім паветах. Хаця жывуць не ў раскошы, бядней, убога і сціпла, але маюць найбольш чыстае асяроддзе — тут чыстае паветра, рэкі, лясы, лугі і палі. Гэта наш козыр. Не дымяць вялікія фабрыкі і гарадскія кацельныя. Па дарогах ездзіць няшмат аўтамабіляў. Ціхі, спакойны куток.

У вёсках людзі жывуць перш-наперш у драўляных дамах, якія найбольш прыязныя чалавеку. На сваіх зямельных участках садзяць пладаносныя дрэўцы, вырошчваюць агародніну без штучных угнаенняў. Харчуюцца здаровымі прадуктамі без якіхсьці там асаблівых прысмакаў. Жыццё тут бяжыць куды вальней і спакайней чымсьці ў цэнтральнай Польшчы. Іншы тут парадак жыцця.

На Беласточчыне жанчыны жывуць у сярэднім 83 гады а мужчыны — 74. У іншых рэгіёнах нашай краіны жывуць карацей (нават на дзесяць гадоў), хутчэй паміраюць. Там нашмат больш чымсьці ў нас забруджанае асяроддзе, усё менш і менш ліставых дрэў і іншых раслін, здаровага паветра і вады ў азёрах і рэках.

На Гайнаўшчыне ды ў Бельскім і Сямятыцкім, а таксама Беластоцкім паветах пажылыя жыхары ходзяць у царкву, моляцца. Аказваецца, што, між іншым, духоўнае рэлігійнае жыццё мае станоўчы ўплыў на даўгавечнасць людзей. Тут людзі больш мілыя, добразычлівыя ды сямейныя. Жыццё ў вялікіх і сярэдніх сем'ях, у якіх жывуць дзед і бабуля, таксама мае добры ўплыў на даўгавечнасць.

Аўтарытэты сцвярджаюць, што працягласць нашага жыцця залежыць ад нас саміх. Важна, ці мы вядзем актыўны спосаб жыцця. Нашы продкі былі актыўныя, многа працавалі фізічна на свежым паветры. І нам трэба больш хадзіць, бегаць ездзіць на роварах, плаваць, памяркоўна есці тлушч і цукар. Неабходна спажываць агародніну і фрукты, хлеб найлепш ржаны. Ну і трэба пакінуць курыць і ўжываць спіртныя напіткі.

У пачатку жніўня гэтага года я быў запрошаны на мерапрыемства з нагоды сотай гадавіны з дня нараджэння Надзеі Зубрыцкай з Баб'яй Гары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Сёлета 6 жніўня ў бабігорскай святліцы было гаманліва. Павіншаваць юбілярку прыйшлі і прыехалі перш-наперш сямейнікі, суседкі і астатнія аднавяскоўцы гэтага прыгожага сяла. Тут мы сустрэліся з Мірай Лукшай, ніўскай журналісткай. Прыселі мы з юбіляркай на ганачку і пачалі размову ды рабіць фотаздымкі. Спадарыня Міра яшчэ і запісвала на дыктафон.

Юбілярка расказала нам пра сваё нялёгкае ды гаротнае жыццё на вёсцы. Калі ў дваццацігадовым узросце выйшла замуж (муж меў на імя Аляксандр), тады са сваёй роднай вёскі Міклашэва прыйшла жыць у Баб'ю Гару. Мелі невялікую гаспадарку. Надзея нарадзіла двое дзяцей, сына і дачку, мае двое ўнукаў і чацвёра праўнукаў. Зараз найбольш дапамагае ёй унучка Івона.

Пасля гадзіны 12-й прыехалі, між іншым, войт Нараўчанскай гміны ды загадчыцы ЗАГСа і Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі. Было многа пажаданняў здароўя і доўгіх гадоў жыцця, многа букетаў прыгожых летніх кветак, было шампанскае для ўсіх удзельнікаў рэдкай урачыстасці. Паэтэса Міра Лукша прачытала асабліва прыгожы, змястоўны, такі напісаны ад сэрца верш, прысвечаны юбілярцы. Яна добра ведае спадарыню Надзею. Паэтэса з недалёкіх адсюль Баравых.

Ніўскі карэспандэнт мог пабываць на юбілейным мерапрыемстве дзякуючы дзейснай дапамозе солтыса і роднай з Баб'яй Гары. Шчыра дзякую.

❖Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

**Міра ЛУКША**

## Пані Надзеі Зубрыцкай

Перажылі Вы, цёця Надзя, сотню гадоў.
За той час змянілася шмат дзяржаў і ўстаноў.
Войны былі, тэрор, няшчасці і бяда,
Бабігара гарэла не раз, вораг у скуру даў,
А Вы, маленькая жанчына, паказалі сваю моц,
Працуючы на зямлі, не спаўшы ў дзень і ноч,
Сваё жытло пільнуючы і аздабляючы красой,
Дабром аддзячваючы на зло, не плачучы расой,
А горкаю гаючаю слязой паліўшы родны кут,
Вы ў сябе, у Бабігары, Вы – родна маці тут,
На Нараўчаншчыне, на Падляшшы, у свеце і ў міры –
Надзея – як надзея на дабро – у Бабігары.

*6 жніўня 2020 года*

# Адгаданка

1. пасля пятніцы, 2. ільдзіна на рацэ, 3. мясцовасць + вуліца + нумар дома, 4. рака і горад з Благавешчанскім манастыром каля Беластока, 5. муркае і мяўкае, 6. жоўтакветная балотная расліна (*Caltha*), 7. пецярбургская рака, 8. насенне хлебных злакаў, 9. зімовы месяц, 10. пералік страў прапанаваных рэстаранам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | | |
| | | 3 | | | | | | | |
| | | | | | 4 | 5 | | | |
| | | | 6 | | 7 | | | | |
| 8 | | | | | | 9 | | | 10 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 30 нумара**

Вуаль, закон, шчыт, жнец, Венера, анкета, раджа, цагліна, Енісей, панарама, амбразура, Памір, медаль, баец, абед, турнір.

Рашэнне: **Амаль кожны чалавек нараджаецца геніем, а памірае дурнем**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

# 23.08 — 29.08

**(22.03. — 20.04.)** Разлічвай на шчаслівыя нагоды і многія ўсмешкі лёсу, але найбольш поспехаў здабудзеш сам. 23-29.08. — найлепшая імпрэза лета! З 28.08. (да 31.08.) не дай сябе намовіць на рызыкоўную інвестыцыю. На працы час 23-27.08. залічыш да найменш прыемных. Ашчадна гаспадаруй грашыма (іх хопіць). 24-28.08. не выдай грошай на штосьці, што табе не неабходнае або хутка табе абрыдне.

**(21.04. — 21.05.)** Пераможаш канкурэнцыю, узмоцніш сваю пазіцыю. Тое, чаго дасягнеш 24-26.08. задзівіць тваё атачэнне. З 29.08 пакажаш сябе пераможцам у цяжкай сітуацыі. Пераможаш свае апаскі і абмежаванні. Вельмі рамантычна 25-29.08. Грошай табе хопіць на нават далёка ідучыя планы, інвестыцыі. Слухай асцярог кардыёлага. Сэрцу паможа таксама спакой духу і розуму. Добра высыпайся!

**(22.05. — 22.06.)** З 29.08. не стань ахвярай уласных уяў. 24-26.08. твая кар'ера добра развінецца. 24-26.08. добры час узяць крэдыт або яго пагасіць. Абследуй сваю шчытавідку. Можаш раскруціць свае інтарэсы. Шчырая ўсмешка лёсу. Добры настрой. Акрыляць цябе нечаканыя поспехі. Праца прынясе плён. Пры знаёмстве з новай асобай поўнасцю не ангажуйся.

**(23.06. — 23.07.)** 25-29.08. вельмі ўдалыя сустрэчы з сябрамі і рандэву. З 28.08. (да 30.08.) новыя шанцы, нагоды выездаў і абучэнняў. 24-28.08. будзе шанц наладзіць знаёмства, у якога будзе будучыня. 25-29.08., калі ўздыхаеш да кагосьці, выйдзеш з ценю. У фірме шанцы на развой 24-26.08. Не шкадуй сабе адпачынку. Схадзі на кансультацыю да лекара.

**(24.07. — 23.08.)** Твая інтэлігентнасць і ўмеласць аргументацыі сустрэнецца з вялікім прызнаннем. Да 24.08. можаш адчуваць аслабленне. 24-28.08. аформіш кожную справу. Разумна плануй свае выдаткі. На працы трымайся абранай тактыкі. Не выкладвай усіх карт на стол. У сардэчных справах стабілізацыя і спакой.

**(24.08. — 23.09.)** 24-26.08. пазнаёмішся з інспіруючымі асобамі, якія заразяць цябе сваімі захапленнямі. З 28.08. шанцы на павышэнне або лепшую працу. З 29.08. (да 31.08.) вельмі зважай на свае рашэнні, каб пасля не шкадаваць. 25-29.08. удасца табе дамовіцца з кімсьці, хто вельмі стараецца за твае пачуцці. 28.08 (да 30.08.) можаш атрымаць на працы заданне на меру павышэння, і хораша справішся з ім, хаця можа будзеш зарабляць менш. 24-28.08. вельмі пільнуйся ліміту калорый.

**(24.09. — 23.10.)** Дасі рады ўсім праціўнасцям. Выйдзіце да людзей, самотныя Шалі. 25-29.08. шанцы на ўдалую сувязь. 24-28.08. добрыя весткі ў справе конкурсу, у якім ты прымаў удзел. Адчуеш, што пара скрупулёзна палічыцца з рознымі справамі і трактаваць сябе сур'ёзна і сумленна. Не забудзь пра тэрміны ў дактароў.

**(24.10. — 22.11.)** 24-28.08. можаш сарганізаваць уладую і бяспечную імпрэзу для гасцей. 23-27.08. можаш адчуць стому і недахоп сілы. Але стаў сабе амбітныя мэты. 25-29.08. у пары вернуцца жарсці і рамантычныя кліматы. На працы карысныя для цябе аспекты Зорак — ніштo табе не перашкодзіць у рэалізацыі задум, творчых і нават рэвалюцыйных, але як найбольш рэальных! Пусціш у рух знаёмствы і закрунешся каля новай крыніцы заробку — 24-26.08. будзеш ведаць, у чым справа.; можа, лепш будзе адкласці грошы на рахунак? Пільнуйся ад вос і шэршняў.

**(23.11. — 22.12.)** Дзейнічаць будзеш з размахам, здабываючы тое, што хочаш. 25-29.08. прыгожа, з густам і нядорага аздобіш жыллё. Не ганяйся за новымі заказамі на працы, бо ўтопішся ў фармальнасцях. Не турбуйся за будучыню. Фінансавая рызыка цяпер не аплачваецца. Але з 26.08. (30.08.) зайграй на біржы, падпісвай дамовы, змагайся за датацыю. 24-28.08. не дай сябе намовіць на ніякія модавыя эксперыменты. 25-29.08. незвычайныя духовыя або... фізічныя перажыванні. З 29.08. (да 31.08.) магчымыя замяшанне і хаос, над якімі цяжка будзе запанаваць.

**(23.12. — 20.01.)** З 28.08. (да 30.08.) зрэалізуеш свае прафесійныя планы, асабліва звязаныя з выездамі. 22-27.08. будзь вельмі асцярожны і не рызыкуй. 25-29.08. будзеш чулы і вельмі пяшчотны. Казярогі з ІІ дэкады, будучыя ў вольнай сувязі, могуць спадзявацца ўльтыматуму ад партнёра — шлюб або расстанне! У прафесіі ўбачыш новыя магчымасці развою. Трэба будзе павысіць кваліфікацыі, навучыцца новым аплікацыям, падвучыцца мовам.

**(21.01. — 19.02.)** 24-26.08. твае творчыя задумы ўводзь у жыццё. На працы не паддавайся націскам, бо доўга будзеш шкадаваць. З 22.08. могуць азвацца твае старыя нямоглaсці, не забывай аб прафілактыцы. Можаш апынуцца ў сітуацыі, з якой цяжка звыкнуцца. Можаш поўнасцю давяраць парадам Ільва.

**(20.02. — 21.03.)** Усё пойдзе па тваёй думцы, толькі будзь асцярожны і разумны. 24-26.08. выбераш дарогу ў прафесіі (у выпадку Рыб з ІІ дэкады можа быць змена працы). З 28. (да 31.08.) ідэальны момант на любоўныя сустрэчы, будзе вельмі рамантычна. 25-29.08. можаш залюбіцца ў кагосьці, хто на цябе можа мець кепскі ўплыў і нарабіць табе праблем. З 28.08. (да 31.08.) адатнешся ад тых, хто забірае твой час і цябе выкарыстоўвае. Вельмі горача на працы, дасі рады, але лепш зыдзі з першай лініі фронту.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Ратуша ў Беластоку

**Адной са знакавых будоўляў Беластока з'яўляецца гарадская ратуша. Гэта будынак з цікавай гісторыяй. Дарэчы, не кожны горад мае такую сведку даўніны. Але па чарзе...**

Вікіпедыя: „Першыя ратушы ў Заходняй Еўропе з'явіліся ў XII ст. Пабудовы мелі элементы абарончага і грамадзянскага дойлідства. Узводзілі 2-павярховыя ратушы з балконам ці эркерам. Будынак ратушы, звычайна прамавугольнай формы, будаваўся ў цэнтры горада, пасярэдзіне плошчы, дзе адбываліся кірмашы. Ратушу амаль заўсёды ўпрыгожвала вежа, якая выконвала ролю назіральнай вышкі (у выпадку пажару альбо ваеннага нападу). Галоўным памяшканнем ратушы была зала пасяджэнняў магістрата на другім паверсе асноўнага будынка. Вакол ратушы мясціліся гандлёвыя рады і крамы. У канцы XVI ст. усе вялікія беларускія гарады мелі ратушы, у асноўным драўляныя. У час шматлікіх пажараў яны звычайна гарэлі, і таму там, дзе магістраты мелі значныя сродкі, узводзіліся мураваныя будынкі. На жаль, большая частка з іх не захавалася, а некаторыя загінулі ў XX ст. падчас войнаў і з-за абыякавых адносін да культурнай спадчыны". Варта запамятаць апошнюю заўвагу — абыякавыя адносіны да культурнай спадчыны...

Зыгмунт Глогер: „Ратуша (з нямецкага *das Rathaus*) — дом, у якім у прынцыпе месціўся гарадскі суд, магістрат і гарадская рада. Палякі на азначэнне ратушы мелі ўласнае слова *ветліца*, але нячаста ім карысталіся, бо ж не пра моўны педантызм дбалі пераважна нямецкія мяшчане. Найраскошнейшая з ратушаў даўняй Польшчы захавалася ў Познані, нават з прэнгерам, які найчасцей на рынках перад ратушай знаходзіўся".

Пачаткі ратушаў сягаюць старажытнасці. Вялікія будынкі для адміністрацыйных, судовых і гандлёвых мэт узводзіліся ўжо ў старажытным Рыме. У раннім сярэднявечы фармаваўся феадальны двор, з вялікай залай, у якой феадальны пан загадваў сваімі падуладнымі. У пазнейшае сярэднявечча ў гарадах, дзе развіваўся гандаль, сталі ўзводзіць гарадскія будоўлі на цэнтральнай, рыначнай плошчы, у якіх першы паверх быў прызначаны для гандлёвай дзейнасці, а на другім паверсе была зала, прызначаная іншым грамадскім мэтам, м.інш. на пасяджэнні назначанай феадалам або выбранай іншым чынам гарадской знаці, дзе вырашаліся істотныя для горада справы; з гэтага і пайшла нямецкая назва ратушы. А ветліца мела вельмі падобныя этымалагічныя вытокі, бо ў будынку збіралася традыцыйнае ў славян *веча* — адсюль і скора забытае да нашага часу слова ветліца... З развіццём рэгіянальнага самакіравання гарады, кіраваныя групамі вызначаных прадстаўнікоў, патрабавалі месца для сходаў тых груп, з таго і вялікая зала, якая пазней выкарыстоўвалася і для іншых гарадскіх мэт. Ну і высокая вежа з гадзіннікам для зладжвання часу насельніцтва — тады яшчэ не было наручных гадзіннікаў... У XIX стагоддзі абшырныя залы ратушаў сталі выкарыстоўваць для грамадскай адукацыі, ладзячы ў іх чытальні і бібліятэкі. Таксама сталі ладзіць у іх забаўляльныя мерапрыемствы, у іх ліку балі і канцэрты — у ратушах паявіліся канцэртныя арганы. А адміністрацыйныя функцыі сталі выводзіць з ратушаў у больш зручныя аб'екты.

Зыгмунт Глогер: „Дзе цэлыя мястэчкі былі драўляныя, там і ратушу пасярэдзіне рынку ўзводзілі драўляную. Такія ратушы былі на Падляшшы яшчэ ў Кнышыне і Ганёндзу. Яшчэ ў палове XIX стагоддзя былі ў некаторых польскіх мястэчках драўляныя двухпавярховыя ратушы, з падсенкамі, вельмі характэрнымі, узведзенымі несумненна тымі самымі дойлідамі, якія ў XVI і XVII стагоддзях узводзілі жыдам падобныя іхнія сінагогі па мястэчках...".




Ratusz drewniany w Goniądzu na Podlasiu (rysował z natury Z. Gloger).

А цяпер пра беластоцкую ратушу. XVIII-вечны Беласток, уласнасць Браніцкіх, быў цэнтрам адной з найбольшых магнацкіх латыфундый у Польшчы. Ратуша была галоўным будынкам грамадскага прызначэння; гэта прыкладная ратуша-крамніца, значыць гандлёвая ратуша. У той час паўставалі ў Польшчы адміністрацыйныя ратушы і гандлёвыя. Ратушы прыватных гарадоў, а такім быў Беласток Браніцкіх, характарызаваліся буйнай гандлёвай часткай і кволай адміністрацыйнай. Яны будаваліся з разлікам арандавання памяшканняў купцам. Крыху пазнейшыя ратушы прызначаліся найчасцей для адміністрацыйных задач. Галоўны корпус беластоцкай ратушы быў узведзены да 1745 года, пазней былі дабудаваны чатыры вуглавыя алькеры. Вежа ратушы была завершана ў 1761 годзе; такім чынам мяркуецца, што беластоцкую ратушу ставілі 17 гадоў. Неўзабаве былі дабудаваны крамніцы, аднак і скора, бо бадай да 1799 года, былі яны знесены. У 1772 годзе ў беластоцкай ратушы было 48 крамаў, усе яны былі ўласнасцю жыдоў. Ратуша ніколі не выконвала гарадскіх адміністрацыйных функцый. У ратушы быў суд, а ў падвалах была і турма... У палове XIX стагоддзя на ратушы была ўсталявана каланча, а пазней гадзіннік. Увесь час ратуша памяркоўна перабудоўвалася. У міжваенны час мела яна каля соткі саўладальнікаў, што не стварала магчымасці нейкага аднароднага ўпарадкавання будынка.

З гэтай праблемай справіліся саветы, якія ў 1940 годзе папросту раскідалі беластоцкую ратушу, мяркуючы на яе месцы ўзвесці помнік Сталіну. Аднак гэтая задума не была здзейснена; на месцы ратушы была закладзена клумба ў выглядзе пяціканцовай савецкай зоркі. Так вось, менавіта, выглядала стаўленне новых уладароў да культурнай спадчыны Беластока.

Адбудова беластоцкай ратушы пачалася ўжо пасля смерці Сталіна, у 1954 годзе. У агульным абрысе ратуша захоўвала свой кшталт, аднак прызначалася яна, згодна тадышнім трэндам, для музейных патрэб, таму і была адбудавана з некаторымі нязначнымі зменамі. Падаецца, што ініцыятарам адбудовы беластоцкай ратушы былі мясцовыя ваяводскія ўлады, пасля фінансаванне прац адбывалася з прыцягненнем фондаў Галоўнай рады адбудовы Варшавы. Быў такі фонд NFOS — Narodowy Fundusz Odbudowy Stolicy, які фінансаваў таксама і правінцыйныя патрэбы вяртання культурнай спадчыны. Праўда, адбывалася гэта не беспраблемна, бо трэба было моцна натузацца нашым ваяводскім тузам, каб нешта ў Варшаве адваяваць, але ўсё ж такі будоўля была завершана...

„Кароткая энцыклапедыя Беларускай ССР": „Галоўным памяшканнем ратушы была парадная зала для ўрачыстых актаў, пасяджэнняў магістрата, тэатральных паказаў і іншых. Частка памяшканняў ратушы (падвалы, першыя паверхі) адводзілася пад хлебныя крамы, склады тавараў прыезджых купцоў, памяшканні для апрацоўкі сукнаў, у іх хавалі гарадскую вагу і бочкі, якімі мералі збожжа („бочка мерная"). У ратушы знаходзілася канцылярыя самакіравання, гарадская казна, архіў з кнігамі адміністрацыйных прадпісанняў рады і яе судовых рашэнняў, граматы з прывілеямі, выдадзенымі гораду. У ратушы праводзіліся пасяджэнні судоў. Ратушны суд быў у Полацку, Магілёве, Пінску, Мінску, Кобрыне і інш. (...) У 17-18 ст. пераважаў барочны тып ратушы са шмат'яруснай вежай, завершанай разнастайнымі купалкамі ці шпілем: магілёўская ратуша, віцебская ратуша, шклоўская ратуша і інш. У стылі класіцызму пабудаваны мінская ратуша, гродзенская ратуша і інш.".

Варта спыніцца пры апошняй ратушы ў недалёкім Гродне. Вось яе апісанне з той жа кароткай энцыклапедыі: „Пабудавана ў канцы 18 ст. — 1807 у цэнтры Гродна на плошчы, уваходзіла ў комплекс з крамамі. Невысокія аднапавярховыя карпусы крам, накрытыя двухсхільнымі дахамі, утваралі замкнёны па перыметры прамавугольнік будынкаў з унутраным дваром. Ратуша складалася з двух невялікіх, квадратных у плане, мураваных аб'ёмаў, укампанаваных у паўднёвы і паўночны карпусы крам, з праездам паміж імі. Абедзве часткі ратушы былі аб'яднаны шасцікалонным дарычным порцікам з трохвугольным франтонам і накрыты агульным двухсхільным дахам. Не зберагліся". Не зберагліся такім жа чынам, як і беластоцкая ратуша — яе раскідалі саветы, толькі крыху пазней, у 1946 годзе. У Беластоку ратушу ў першы спрыяльны момант адбудавалі, у Гродне такога спрыяльнага моманту не дачакаліся...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 34